


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (1067) БЕЛАСТОК, 8 ЖНІЎНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


# ТУРЫЗМ — ШАНЦ ДЛЯ МЕЛЬНІКА?



*Від на Мельнік з Замкавай гары.* *Фота С. Рыбі.*

Мельнік — спакойны пасёлак над ракой Буг у самым паўднёва-ўсходнім кутку Беластоцкага ваяводства. Засяляе яго каля 1000 жыхароў.

З жывапіснага малюнку, які ўпрыгожвае цэлую сцяну ў мясцовай сталовай, можна даведацца, як гэты пасёлак выглядаў 500 гадоў таму назад. І сапраўды, Мельнік адыграў важную ролю ў гісторыі польска-беларускага пагранічча. Заснавалі яго літоўскія князі. Быў важным абаронным і гандлёвым цэнтрам найперш Валынска-Галіцкай Русі, пасля Вялікага Літоўскага Княства, а затым і Рэчыпаспалітай. Тут польскі кароль Альбрэхт у 1501 годзе падпісаў адзін з важнейшых дзяржаўных актаў, які замацоўваў свабоду і правы польскай шляхты.

Цяпер Мельнік корміцца перш за ўсё белай крэйдай, якая багатым слоем распасціраецца пад фундаментамі мельніцкіх сяліб. Да вайны гэтую крэйду здабывалі кустарным способам. Цяпер на выручку прыйшла тэхніка. У глыбокіх кар'ерах безупынна грукочуць землечарпалкі і бульдозеры. У Мельніку пабудавалі таксама прадпрыемства па апрацоўцы гэтай крэйды. Гэтая сыравіна патрэбная ў многіх галінах прамысловасці. Купляюць яе і за мяжой.

Усё было б вельмі добра, калі б крэйдавы пыл тоўстым слоем не пакрываў ўсяго жывога і мёртвага ў радыусе некалькіх кіламетраў. Ад яго цяжка дыхаць, вянуць дрэвы, нельга адкрыць вокан у хаце.

Дык ідзе барацьба між прыхільнікамі разбудовы крэйдавай шахты і павелічэння яе перапрацоўкі ды змагарамі за ахову прыроднага асяроддзя.

Першыя змагаюцца за разбудову існуючага прадпрыемства, за абсталяванне яго навейшай тэхнікай, каб аблегчыць вельмі цяжкую, бо ў многіх выпадках проста ручную працу, а другія патрабуюць ад усіх улад рашучай адмены ўсялякіх планаў па разбудове мельніцкай крэйдавай прамысловасці. Даказваюць яны, што самым каштоўным багаццем Мельніка з'яўляецца натуральная прыгажосць яго краявідаў.

І сапраўды, з вышыні Замкавай гары, якая над узроўнем ракі Буг вырасла на 80 метраў, распасціраецца незабыўны краявід. Жывапісны сярэбранай істужкай Буг пераадольвае тую прасторную даліну, якая з аднаго боку абмежавана мельніцкім узвышшам, дзе ўзгоркі чаргуюцца са смалістымі лясамі, а на другім баку гэтай даліны — дрымучы лес Падляшша, багаты грыбамі і здараваносным водарам.

У апошніх гадах у наваколлі Мельніка адкрыты мінеральныя воды, якія маюць лячэбныя ўласцівасці.

Усё гэта ўжо пранюхалі кемлівыя жыхары сталічнай Варшавы. І цяпер, у летні перыяд, толькі крэйдавы пыл туманамі клубіцца за іх „Фіятамі" і іншымі „лімузінамі".

Дык можа сапраўды будучыня Мельніка ў масавым турызме?

Першыя ластаўкі гэтай будучыні ўжо пасяліліся ў Мельніку. Дзейнічае тут невялічкі санаторый, ёсць даволі прасторнае кіно і прыгожа абсталяваная сталовая.

Аднак, здаецца, што неабходныя больш станоўчыя намаганні ў гэтым напрамку. Беластоцкае ваяводства ў цяперашніх яго межах магло б ператварыць Мельнік у другую пасля Белавежы турыстычную жамчужыну. Натуральныя ўмовы і краявідная прыгажосць самога Мельніка і яго наваколля поўнасцю апраўдваюць такія меркаванні.

Белавежу трэба ўжо ратаваць ад турыстаў. Так мяркуюць вучоныя, што працуюць у белавежскім філіяле Польскай акадэміі навук. Ды і самім белавежцам шмат у чым надакучыла „турыстычная стонка". Тады Мельнік можа выратаваць Белавежу. Ды не адзін толькі Мельнік, а цэлае надбужанскае пабярэжжа — ад Мельніка да цяперашняй мяжы Беластоцкага ваяводства.

Толькі, каб туды накіраваць хвалю турыстаў, неабходна падрыхтаваць спрыяльныя ўмовы. Неабавязкова адразу будаваць густую сетку супернавейшых дамоў адпачынку і санаторый. Перш за ўсё неабходна стварыць умовы для бяспечнага адпачынку. Буг у гэтым ды не толькі ў гэтым месцы вельмі здрадлівы. Ён цячэ шырокімі закрутасамі і для вока здаецца спакойным і прыманлівым. Аднак пад яго спакойнай паверхняй вельмі многа нечаканых варонак, ям, калдобін, небяспечных віраў, з якіх не вырвацца нават самым вопытным плывакам. Дзесяткі ўжо чалавечых трагедый хаваюць гэтыя для вока спакойныя воды Буга.

Таму неабходна вызначыць і дакладна абмежаваць месцы для бяспечнага купання — для дарослых і для дзяцей, для майстроў гэтага спорту і для тых, што ідуць на дно, як камень.

Вялікіх грошай дзеля гэтага не трэба, а на пачатак зусім дастаткова кемлівасці мясцовых улад.

**Максім Нурэцкі**



*Адну сцяну ў мельніцкай сталовай упрыгожвае малюнак, які прадстаўляе першапачатковы выгляд мельніцкага замка.* *Фота В. Рудчыка.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



## VIII З'ЕЗД БГКТ



*(Выступленне візітатара школ для нацыянальных меншасцей Міністэрства асветы і выхавання Станіслава Янкоўскага.)*

# ДАБРАХВОТНАСЦЬ НЕ АЗНАЧАЕ АБЫЯКАВАСЦІ

Буду гаварыць коратка і аб асноўных праблемах. Для вас, таварышы дэлегаты, найважнейшай справай з'яўляецца тое, колькі дзяцей вывучае беларускую мову. Гэта вельмі падрабязна разглядалася на нарадзе 6 мая бягучага года ў кураторыі, аб чым ужо гаварылася ў папярэдніх выступленнях. Я скажу коратка: нельга абвінавачваць Галоўнае праўленне БГКТ, бо яно, што магло, тое рабіла, і, што можа, тое робіць. Колькасць дзяцей меншая, таму што, папершае, цяпер у Польшчы дзяцей наогул менш, а па-другое, уплывае на гэта міграцыя насельніцтва.

Хачу падкрэсліць асноўную справу, вы яе перадайце членам сваёй арганізацыі і перш за ўсё самі прыміце блізка да сэрца: ніхто не хоча каб беларускае насельніцтва асімiляваць, дэнацыяналізаваць. Зразумела — **Не!** Наша партыя вызначыла гэты напрамак дзеяння, а Міністэрства асветы і выхавання яго здзяйсняе.

Праўда, вывучэнне беларускай мовы з'яўляецца добраахвотным, але гэта зусім не абазначае абыякавасці. І гэта павінна ляжаць на сэрцы ў першую чаргу вам, дэлегаты, а таксама настаўнікам, што працуюць у тых школах, дзе вывучаюць або маглі б вывучаць дзеці родную мову. Тут гаварылася, што ў 90% поспех гэтай справы залежыць ад вас. Гэта праўда, прапорцыі добрыя. Але залежыць ён і ад нас. Неабходна аб усіх прыкрых справах, аб якіх тут была мова, сігналізаваць у кураторыю. У беластоцкай кураторыі пануе вельмі прыхільная атмасфера да спраў навучання беларускай мове. Калі ж кураторыя ў некаторых сітуацыях не зможа ўладзіць справу, тады трэба звяртацца ў Міністэрства асветы і выхавання. І тут хачу вам сказаць, што я асабіста да гэтых спраў ніколі не адносіўся абыякава.

У нас ёсць некалькі нацыянальных меншасцей: беларуская, літоўская, славацкая, украінская, грэчаская — да ўсіх мы адносімся з аднолькавым сэрцам. У рамках нашых магчымасцей, а

**(Працяг на стар. 2)**

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ПРАГІ

# Другая бацькаўшчына Забэйды

„Прыйшоў да нас з Беларусі" — пісала 30 мая 1975 года пражская газета „Лідова Дэмокраціе", калі ў сталіцы Чэхаславакіі адзначалася 75-тая гадавіна з дня нараджэння Міхася Забэйды. Прыйшоў не на тое, каб здабываць тут адукацыю, як многія яго заходнебеларускія суайчыннікі — стыпендысты чэхаславацкага ўрада ў міжваенныя гады. Забэйда прыехаў у Прагу ў росквіце сваіх творчых сіл, з багажом сусветнай славы спевака-тэнара.

Было гэта ў маі 1940 года... Роўна 36 гадоў жыве ўжо Міхась Забэйда над берагамі Влтавы, у братняй Чэхіі, якая стала яму другой бацькаўшчынай. Не без хвалявання пераступаў я сонечнай ліпеньскай раніцай парог кватэры маэстра пры Польскай вуліцы 12, каб наведаць слаўнага земляка і перадаць яму прывітанне ад паклоннікаў з-пад дрымучай Белавежы.

Так, пражскі перыяд жыцця Забэйды — гэта большая частка яго творчага шляху, найбольш плённыя гады ў яго мастацкай кар'еры. Аб гэтым неяк не задумоўваюцца людзі старэйшага пакалення, якія ў трыццатыя гады слухалі забэйдавы песні па радыё, ці ў канцэртных залах Вільні і заходнебеларускіх гарадоў. Тут, у Празе, удасканаліўся яго талент, тут і ў іншых гарадах Чэхіі і Славакіі праходзілі яго шматлікія канцэрты, выступленні па радыё і на оперных сцэнах. Шмат часу прысвяціў наш зямляк таксама і педагагічнай дзейнасці — музыкальнаму ўзгадаванню маладога пакалення.

Родную Гродзеншчыну пакінуў Забэйда ў 1915 годзе і ад гэтага часу жыў у Расіі, Кітаі, Італіі, Польшчы і Чэхіі — заўсёды па-за межамі Беларусі. Магчыма, што гэтая акалічнасць абумовіла ў нейкай меры яго адносіны да роднай песні, у якой уражлівая душа мастака знаходзіла не толькі сродак духоўнай сувязі з зямлёй бацькоў, але і сэнс творчага існавання. „Не памятаю свайго канцэрта з інтэрнацыянальнай праграмай, у які не ўваходзіла б і беларуская песня", — гаворыць не без гонару Забэйда і паказвае захаваныя шматлікія праграмы сваіх выступленняў, у якіх побач замежных кампазітараў відаць прозвішчы Галкоўскага, Аладава, Туранкова... „Дзякуючы дапамозе пражскіх сяброў запісаў я шмат беларускіх песень на грамафонныя пласцінкі, якія спаткаліся з вялікім зацікаўленнем чэхаславацкага грамадства", — працягвае маэстра.



*Міхась Забэйда перад сваім домам на Польскай вуліцы ў Празе. Ліпень 1976 г.*

Незабыўнай падзеяй у канцэртнай дзейнасці Міхася Забэйды былі гастролі па Савецкай Беларусі, якую ён наведаў у 1963 годзе. „Даў я тады, — успамінае мастак, — адзінаццаць канцэртаў: у Мінску, Гродна, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Лідзе, Ваўкавыску і іншых гарадах. У некаторых з іх выступаў яшчэ перад вайной і, вядома, знайшлося там нямала людзей, якія слухалі мяне ўжо не першы раз. Была тады ідэя пераехаць у Беларусь назаўсёды. Нават чатыры куфры купіў — во, бачыце, ляжаць на шафе".

Восенню 1965 года па просьбе Галоўнага праўлення БГКТ Забэйда наведвае Беласточчыну, дзе даў восем канцэртаў — у Беластоку (два), Бельску, Гайнаўцы, Гарадку, Мілейчыцах, Міхалове і Саколцы. Акрамя незабыўных уражанняў, пакінуў ён нам тады трывалую памятку — адзінаццаць беларускіх народных песень, якія запісала на грампласцінку польская фірма „Муза". З таго часу мінула больш дзесяці гадоў, але сустрэчы на Беласточчыне ўсё яшчэ жывыя ва ўспамінах мастака. „Не забудзьце перадаць мае найлепшыя прывітанні чытачам „Нівы", — гаворыць Забэйда. З прыемнасцю выконваю гэтую просьбу.

Мастацкая і педагагічная дзейнасць Міхася Забэйды атрымала высокую ацэнку чэхаславацкага грамадства. Віншуючы мастака з нагоды юбілею, старшыня Саюза чэхаславацкіх кампазітараў К. П. Садлё пісаў: „...пры гэтай нагодзе прыміце, просім, нашу шчырую падзяку за ўсё тое, што зрабілі Вы ў галіне песні". Юбілей Забэйды ўшанавала пражскае радыё канцэртам беларускіх песень у выкананні нашага слаўнага земляка. Тых песень, нястомным папулярызатарам якіх быў ён тут на працягу многіх гадоў.

У апошні час Забэйда выступае ўжо нячаста. Ды вось толькі што адзначыўшы сваё 75-годдзе, зноў бачым артыста на сцэне канцэртнай залы ў Люгачовіцах, дзе 21 ліпеня 1975 года выступіў ён з канцэртам „красных пісні", які злажыўся з дваццаці твораў розных кампазітараў, а ў іх ліку і „Лета" Туранкова. Рэпарцёрская звычка дыктуе пытанне, ці не было далейшых канцэртаў. „Не, не было, — адказвае Забэйда без радасці, — але я яшчэ магу заспяваць!". Веру ў гэта, так як веру ў тое, што песня — гэта жыццё Забэйды!

**Юры Туронак**
Фота аўтара

(Пачатак на стар. 1)

# ДАБРААХВОТНАСЦЬ НЕ АЗНАЧАЕ АБЫЯКАВАСЦІ

яны, як вядома, залежаць ад эканамічнай сітуацыі ў нашай краіне, паступаем так, як гэта можна ў акрэсленых умовах Да нас можна мець прэтэнзіі за забеспячэнне вучняў падручнікамі, за адпаведную працу настаўнікаў. Калі ідзе гаворка аб настаўніках, дык мы ўжо 20 год рэгулярна пасылаем у Мінск на месячны курс іх дваццаціасабовую групу, каб павышалі свае веды ў галіне беларускай мовы. Штогод усе месцы на курсе заняты, і мы гэта вельмі высока цэнім. Гэтую форму працы мы будзем працягваць і ў далейшым.

На нарадзе 6 мая гэтага года ў кураторыі былі сабраны ўсе гмінныя дырэктары з тых гмін, дзе вывучаецца беларуская мова, і тых, дзе не вывучаецца, але магла б вывучацца. Яны ўсе пачулі, што трэба рабіць. А іменна: яны абавязаны прыкласці ўсе намаганні, каб там, дзе пражывае беларускае насельніцтва, вялося навучанне беларускай мове. Калі такога навучання няма, яно павінна быць арганізавана. Пра цяжкасці ў выкананні і гэтага загаду дырэктары павінны паведаміць кураторыі і Міністэрству асветы і выхавання, каб мы маглі ім дапамагчы.

У будучыні, згодна з рэформай, якую мы неўзабаве пачнем уводзіць у жыццё, паўстануць 10-годкі. У гэтых школах таксама будзе мець месца вывучэнне роднай мовы ўсімі тымі, хто захоча яе вывучаць. А павінны яе вывучаць! Вось наш пункт погляду на гэтыя справы.

Калі гляджу на залу, мяне надта цешыць, што сярод дэлегатаў ёсць столькі моладзі — будучыні вашага таварыства. Жадаю вам, каб яе было як мага болей.



ОГП — 1976

# МОЛАДЗЬ ПРАЦУЕ І АДПАЧЫВАЕ

Моладзь з Беласточчыны (каля 3000 вучняў сярэдніх школ і 800 студэнтаў) у часе сёлетніх канікулаў працуе ў 100 гуфцах.

### У КОЗІМ ЛЕСЕ...

...ужо дзевяты раз разбілі свае палаткі дзяўчаты з беластоцкай школы акушэрак. Усіх дзяўчат прыехала сюды працаваць і адпачываць 28. На іх палаткі мы натрапілі каля леснічоўкі, ад якой дзяліў іх толькі галубы лубін. На гэты раз не ўдалося нам сустрэцца з удзельніцамі ляснога ОГП. Яны якраз працавалі ў розных пасадках надлясніцтва Жэдня: у Саколі, Станку, Казімерове.

Будучыя работніцы службы здароўя вельмі палюбілі лес. Сёлета за два тыдні яны ўзяліся прапалоць і добраўпарадкаваць звыш 140 гектараў лясных пасадак. Апрача таго, дапамагчы мясцовым сялянам, асабліва адзінокім і старэйшым, пры ўборцы сена і ў акцыі ліквідацыі каларадскага жука на бульбе.

Сёлета, як і ў мінулыя гады, з дзяўчатамі займаецца камендантка ОГП Галена Зембінская. Яна пасылае іх на работу, яна чакае іх з абедам ды аб усім клапоціцца.

Пасля абеда дзяўчаты маюць шмат вольнага часу. Ідуць яны тады купацца на раку, займаюцца спартыўнымі гульнямі, арганізуюць конкурсы, выступаюць з канцэртамі, на якія запрашаюць жыхароў навакольных лясных пасёлкаў, наладжваюць сустрэчы з мясцовым насельніцтвам, у час якіх выступаюць з цікавымі лекцыямі на тэму аховы здароўя ды арганізуюць шмат іншых культурных мерапрыемстваў (у Саколі, Жэдні, Залуках, Фальварках Малых, Калодным).

Глядзелі мы багатую хроніку гуфца, цешылі вока каляровыя дыяпазітывы, зробленыя ў час працы і адпачынку. Знайшлі цёплы ўспамін пра супольны гуфец з венгерскімі ліцэісткамі, у якім яны былі два гады таму назад.

Варта дадаць, што дзявочы гуфец з акушэрскай школы ў 1973 годзе заваяваў першынство ў агульнадзяржаўным спаборніцтве на найлепшы летні гуфец у катэгорыі маладзёжных ОГП.

### У ЧАРЛЯНЦЫ І ПШЭЎЛОЦЫ...

**У Чарлянцы** ў двух ОГП працуе 60 дзяўчат з бельскай школы медсясцёр. Жывуць у рабочай гасцініцы. Працуюць пры праполцы лясных пасадак з маладымі елачкамі, сасонкамі і дубочкамі. Кожны дзень добраўпарадкоўваюць па чатыры і больш гектараў. Работа ў іх акордная. Таму можна добра зарабіць.

Пасля працы дзяўчаты знаёмяцца з моладдзю з Чарлянкі, запрашаюць іх да сябе, ездзяць у Белавежу.

У ОГП у **Пшэўлоцы** займаецца 42 асобы — дзяўчаты і юнакі з першых і другіх класаў беластоцкай школы медсясцёр. Працуюць пры абжынцы пасадак з маладымі дубочкамі ў лясах белавежскага надлясніцтва. Бываюць дні, калі ўдаецца ім прапалоць 7-10 гектараў.

У рабочай гасцініцы, дзе яны закватараваны, ўдзельнікі гуфца маюць штодзень свежую прэсу, розныя спартыўныя прылады, акардэон, бубен, транзістарны прыёмнік і тэлевізар на акумулятар, паколькі да Пшэўлокі не даведзен электрычны ток.

Пасля працы будучыя медсёстры збіраюцца ля кастра, на які запрашаюць цікавых людзей, між іншым, быў у іх госцем удзельнік варшаўскага паўстання ў апошнюю сусветную вайну, былі тутэйшыя леснікі. Апрача таго, арганізуюць яны спартыўныя розыгрышы, песенныя конкурсы, рэдагуюць насценгазету, наладжваюць танцы. Некаторыя вучаніцы, зацікаўленыя прыродай, збіраюць цікавыя лісткі, карэнні і кару дрэў, усялякія зёлкі. Восенню яны ўзбагацяць школьны біялагічны кабінет.

Два гады таму назад у пшэўлоцкім лясным гуфцы працавалі члены бельскага клуба эсперантыстаў, якія па-за працаю вывучалі мову ўсіх моў свету — эсперанта. Моладзь „эсперанцкага" гуфца наладзіла пісьмовую сувязь з эсперантыстамі з многіх дзяржаў свету, сустракалася з аднагодкамі з Чэхаславакіі, Венгрыі і Судану, прабываючымі ў тым часе ў Польшчы.

**Янка Цялушэцкі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 7.VIII.** 9.30 Pr. I prop. 9.45 Pr. dnia. 9.50 Pr. na dzień dobry. 10.20 Dla dzieci: Więźniowie Lamparciego Jaru — film fab. 11.20 Jarmark pieśni i tańca — Mielec 76. 11.50 Za kierownicą. 12.10 Pasja, przygoda, ryzyko. 12.55 Polska leży nad Bałtykiem — teletur. 14.00 STUDIO 2. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 STUDIO 2.

— ◇ —

**Niedziela 8.VIII.** 7.20 Tech. Rol. Zajęcia wakacyjne. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla dzieci: Kino Najmłodszych. 9.25 Antena. 9.45 Akcja Borozo — film fab. CSRS. 11.15 Pocztówka z Rumunii — impr. muz. rum. 11.35 Piórkiem i węglem. 12.00 Dziennik. 12.20 Klub Sześciu Kont. 13.10 Ork. Gewandhaus gra I Symfonię Brahmsa. 14.00 Co kto lubi. 14.55 Los. Duż. Lotka. 15.10 Licytacja — teletur. 16.10 Konik polny — film fab. radz. 17.45 Sport. 18.15 Tele-Echo. 19.20 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Eleonora — film ser. wł. 21.35 Studio Interdisco". 22.40 Sport.

— ◇ —

**Poniedziałek 9.VIII.** 12.00 Pr. na dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.20 Dla dzieci: Kino Zwierzynca. 17.50 Rodzina — pr. publ. 18.15 Testament starego mistrza — film ser. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: P. Hacks — Historia o starym wdowcu z roku 1637. 21.15 Pr. publ. 22.00 Polihymnia na wakacjach. 22.45 Dziennik.

— ◇ —

**Wtorek 10.VIII.** 12.00 Pr. na dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lektury Pegaza. 17.15 Fakty, opinie, hipotezy. 17.45 Studio Młodych. 18.35 Spotk. przy fort. — W. TRZCIŃSKI. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Piękna Hipolita — film fab. wł. 21.45 Świat i Polska. 22.30 Śpiewa Nadia Urbankova. 23.05 Dziennik.

— ◇ —

**Środa 11.VIII.** 12.00 Pr. na dzień dobry. 12.30 Piękna Hipolita — film fab. wł. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Popołudnie najmłodszych. 17.40 Los. Małego Lotka. 18.00 Film przyr. 18.30 Brunetki, blondynki i książę Mantui. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka Arcydzieł: Towarzysze broni — film fab. fr. 21.15 Camerata — mag. muz. 22.45 Dziennik.

— ◇ —

**Czwartek 12.VIII.** 12.00 Pr. na dzień dobry. 12.30 Towarzysze broni — film fab. fr. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: TELEFERIE. 18.10 Patrol. 18.35 Pr. publ. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Sensacji: W. Fairchild — Okup. 21.45 Pegaz. 22.30 Dziennik. 22.45 Wieczorne Kino Letnie.

— ◇ —

**Piątek 13.VIII.** 12.00 Pr. na dzień dobry. 12.30 Film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.10 X Y Z cz. I. 17.50 Po drodze do Bagdadu — rep. film. 18.10 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 18.40 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kino Interesujących Filmów: Szepczące ściany. 22.00 Z Naną Mouskouri — pr. rozr. muz. 22.50 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 6.VIII** — 8.15 Film fab. 12.00 Filmy dok. 13.30 Film fab. dla dzieci. 17.15 Film ser. 19.30 Koncert art. ukr.

**Sobota 7.VIII** — 8.30 Film ser. 12.55 Koncert chóru z Woroneża. 13.40 Film fab. 16.15 Film anim. 16.50 Nie do wiary. 17.50 Piosenka—76. 19.30 Pr. roz.

**Niedziela 8.VIII** — 12.00 Film fab. 12.50 Film dok. 13.20 Koncert. 14.20 Film TV. 14.50 Panorama międzynar. 15.20 Koncert. 16.15 Filmy anim. 17.15 Spektakl. 18.00 Klub film. 19.30 Pr. muz.

## КІНО

**Białowieża** Zorro — wł. 10—11. Dom lalki —ang. 12—13. Obrazki z życia — pol. 14—15.

**Czeremcha** Porwanie — fr. 10—11. Kazimierz Wielki — pol. 14—15.

**Czyże** Dziewczyna — jug. Raj na ziemi — pol. 11—15.

**Dubicze Cerkiewne** Czerwone i białe — pol. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 11—15.

**Gródek** Mazepa — pol. 14—15.

**Kleszczele** Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 10—11. Bilans kwartalny — pol. 12—13. Znikąd do nikąd — pol. 14—15.

**Michałowo** Objazd — buł. 10—11. Życie dla miłości — jug. 12—13. Zaklęte rewiry — pol. 14—15.

**Mielnik** Był sobie drozd — radz. 11. Dulscy — — pol. 14—15.

**Narewka** Yuriko moja miłość — radz. Nona — buł. 11—15.

**Nurzec** Ned Kelly — ang. 10—11. Miłość bywa zbrodnią — wł. 12—13. Anna i komandor — radz. 14—15.

**Orla** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. Kes — ang. 11—15.

**Rajsk** Dzieci lwicy z buszu —ang. Nie ma róży bez ognia — pol. 11—15.

B.Z.Graf. Zam. 1692. F-2

 

## Гартаючы кніжкі

# „Гэй, гэй, каляда!..“

Выхад у свет кожнай чарговай кнігі шматтамовага выдання пад агульнай назвай „Беларуская народная творчасць“, што ўжо вось на працягу некалькіх год паспяхова ажыццяўляе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, з'яўляецца значнай падзеяй у славянскай фалькларыстыцы наогул і выключна важным здарэннем для кожнага, каму блізкая сэрцу вусная народная творчасць беларускага народа. Яшчэ раз пераконваемся ў гэтым, калі бярэм у рукі важкі і па аб'ёму і па зместу том „Зімовыя песні“*), які адрэдагаваў вядомы знаўца беларускай этнаграфіі і фальклору М. Я. Грынблат. У кнізе знаходзім 766 тэкстаў і 250 нотных запісаў піліпаўскіх, калядных і шчадроўскіх песень з поўным даведачным апаратам да іх.

Ва ўступным артыкуле „Беларускія зімовыя песні“ А. І. Гурскі — да яго таксама належыць укладанне, сістэматызацыя тэкстаў і каментарыі да іх — даў даволі шырокую характарыстыку беларускіх калядак і шчадровак, а таксама каларытнага абраду, якому яны спадарожнічалі. У канцы, робячы своеасаблівы вывад, ён, між іншым, піша: *„Прызначэннем каляднай абраднасці ў даўнія часы было жаданне хутчэй наблізіць надыход сонечнага цяпла (згодна з народным выразам, ад каляд „сонца паварочвала на лета“) і забяспечыць добры ўраджай у новым гаспадарчым годзе пры дапамозе адпаведных слоў і розных магічных дзеянняў. З цягам часу функцыі каляднай абраднасці змянілі сваё прызначэнне. Некаторыя элементы каляднага абраду адышлі ў мінулае, а разам і звязаныя з імі звычаі (закліманне мароза, варажба і інш.). Тыя ж рэшткі каляднага абраду (ваджэнне „казы“, калядныя гульні), якія захоўваюцца яшчэ з замацаванымі да іх песнямі ў некаторых мясцовасцях Беларусі, набылі зусім новае адценне, ператварыўшыся ў вясёлую забаву“.*

Гэты працэс адбыўся і на нашай Беласточчыне, сёння калядуюць тут са „звяздой“ ці „шопкай-батлейкай“ толькі дзеці, пры гэтым колішнія калядныя і шчадроўскія песні цалкам забываюцца. Толькі час ад часу ўдаецца пачуць ад старэйшых, сямідзесяці— або васьмідзесяцігадовых людзей крошкі адышоўшай у нябыт абраднасці і звязаных з ёю песень. Мяркуючы ж па гэтым матэрыяле, была яна і ў нашых аколіцах таксама *„перыядам найбольш яркага, моцнага і канцэнтраванага праяўлення гравой карнавальнай народнай культуры, стыхія якой ідзе яшчэ ад старажытнарымскіх сатурналій“*, — як піша З. Я. Мажэйка, сучасны беларускі музыказнаўца і фальклярыст, укладальнік, сістэматызатар і рэдактар мелодый, а таксама абшырнага і грунтоўнага артыкула „Напевы зімовых песень“, што змешчана на пачатку гэтага ж тома.

Неабходна адзначыць, што ў гэтае выданне ўвайшлі таксама калядныя і шчадроўскія песні, запісаныя на Беласточчыне. Перш за ўсё тры песні з багатых збораў Р. Р. Шырмы, які ў трыццатыя-саракавыя гады схадзіў ды з'ездзіў усю паўночна-ўсходнюю Беласточчыну і сабраў тут сотні розных народных песень. У томе апынуліся: *„Там на полі ёлка распусціла зёлка...“* і *„Не дай нам, пане, доўга стаяці“*, запісаныя ад дзяўчат з вёскі Тапілец над ракою Нарвай у колішнім Беластоцкім павеце. У мінулым годзе я наведаў гэтую мясцовасць, але беларускага фальклору там мне не ўдалося знайсці, амаль усё беларускае насельніцтва тых аколіц выехала ў БССР. Распаўсюджаная на значным абшары сучаснай Беласточчыны *„Пілiпку, затні ліпку...“*, якую Р. Р. Шырма занатаваў ад вясковых жанчын у 1928 г. у вёсцы Пясчанікі каля Гарадка, цяпер пераважна адносіцца выканаўцамі да жніўных песень (напрыклад, мой запіс ад 4.04. 75 г. ад А. Парфенюк, В. Кошаль і Н. Грушэўскай у вёсцы Арэшкава на Гайнаўшчыне, глядзі: „Ніва“ ад 16 лістапада 1975 г.). Побач з гэтымі запісамі, у томе памешчаны: песня *„Ластаванька прыляцела“*, запісаная В. Бурак у вёсцы Рэдуты каля Орлі ў 1960 г. ад Н. Сеўка, і *„Ой, красна-ясна ў лузе каліна“*, запісаная П. Магруком у 1964 г. у вёсцы Галады каля Бельска. Абедзве гэтыя песні перадрукаваны з „Беларускага календара“ на 1972 г. з змешчанай там падборкі калядных і шчадроўскіх песень Беласточчыны, якую я падрыхтаваў.

Такім чынам зроблены першы крок у напрамку ўключэння ў фундаментальнае выданне „Беларускай народнай творчасці“ таксама і сучасных запісаў з Беласточычны. Гэты крок заслугоўвае самай вялікай пахвалы і ўдзячнасці з нашага боку, бо вядома, што фальклор беларускага насельніцтва Беласточчыны з'яўляецца неад'емнай, інтэгральнай часткай багацейшай скарбніцы агульнабеларускай народнай творчасці.

Канчаючы гэтую кароткую інфармацыю аб томе „Зімовыя песні“, хочацца выказаць сардэчную ўдзячнасць усім тым, хто ўклаў свой клопат і працу ў яго выданне, якое знаходзіцца на высокім навуковым і тэхнічным узроўні.

**Мікалай Гайдук**

---

*) Зімовыя песні. Калядкі і шчадроўкі. Рэдактар М. Я. Грынблат, укладанне, сістэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі А. І. Гурскага, укладанне, сістэматызацыя, характарыстыка і рэдагаванне напеваў З. Я. Мажэйкі АН БССР Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Мінск 1975 г.

# Фэстын у Ячне

18 ліпеня ў Ячне (Дуброўская гміна) адбыўся пяты фэстын БГКТ, прысвечаны 20 гадавіне існавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Гэтая мясцовасць не стварыла традыцый грамадскай дзейнасці знізу, пачынаючы ад гуртка, які сам займаецца культурнай дзейнасцю, які сам арганізоўвае самадзейны гурток з беларускім рэпертуарам і сам дапамінаецца ад Галоўнага праўлення дапамогі.

І вось у Ячна прыехаў з мастацкай часткай гурток БГКТ з Гарадка, які займаецца культурна-асветнымі справамі, не чакаючы каб хтосьці за гэта агітаваў. Члены гуртка БГКТ у Гарадку такія самыя члены БГКТ, як і ў Ячне, — працуюць на гаспадарках ды яшчэ ва ўстановах і на прадпрыемствах, кормяць свіней, дояць кароў, займаюцца палявымі работамі. Але гарадчане адрозніваюцца тым, што хочуць працаваць, што хочуць мець свой мастацкі калектыў і расслаўляць беларускую песню. І ездзяць з канцэртамі яны ўжо больш як 20 год.

Але вернемся да фэстыну. Адкрыў яго член Галоўнага праўлення, жыхар Ячна Аляксандр Каленік. З дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Сабраўшыеся людзі сядзелі на зялёнай мураве і з увагаю выслухалі даклад, а калі распачалася мастацкая частка, моцнымі воплескамі ўзнагароджвалі кожны нумар. Адчувалася, што спадабаўся прысутным рэпертуар гарадоцкага жаночага калектыву пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы, што спадабаліся маналогі Ніны Мушынскай і музыка інструментальнага калектыву гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку.

**М. Хмялеўскі**
Фота аўтара



*Вёска Ячна.*



*Выступае хор з Гарадка.*



*На фэстыне ўсе сядзелі на зялёнай мураве.*

**АБЯЦАЛІ — ВЫКАНАЛІ?**

# Куды прапаў дэкаратар?

У заметцы пад загалоўкам „Куды прапаў дэкаратар?“ („Ніва“ нумар 43 ад 26 кастрычніка 1975 года) мы крытыкавалі вітрыны аднаго з большых гайнаўскіх гандлёвых дамоў (ВДТ) па вул. М. Бучка, які належыць ГС-у ў Гайнаўцы. У ім вітрыны былі пустыя, непрыгожыя, а так жа не павінна быць. Асабліва ў гандлі рэклама — важная рэч.

Прайшло крыху часу, і рэдакцыя атрымала адказ у гэтай справе дырэктара гайнаўскага аддзела ВЗГС П. Бурылы:

„W odpowiedzi na zamieszczoną notatkę prasową w 43 numerze Waszego tygodnika „Niwa", uprzejmie informuję:

Po zbadaniu zarzutów zawartych w notatce prasowej stwierdza się, że Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Hajnówce aktualnie nie zatrudnia dekoratora ze względu na brak osoby posiadającej odpowiednie kwalifikacje. WDT tejże spółdzielni faktycznie nie posiadał dekoracji. W wyniku przeprowadzonej jednak rozmowy z Zarządem GS Hajnówka, dekoracja okien wystawowych WDT i pozostałych sklepów należących do GS została wykonana, a funkcję dekoratora w części powierzono pracownikowi prowadzącemu punkt usługowy — malowanie szyldów i reklam.

Za niedopełnienie obowiązków przez Gminną Spółdzielnię w Hajnówce w tym zakresie uprzejmie przepraszamy.

**Dyrektor Oddziału**
**P. Buryło".**

Адказ на нашу крытыку быў надрукаваны ў „Ніве“ № 4 ад 25 студзеня 1976 года з допісам:

„Ваяводскі саюз гмінных спулдзельняў — аддзел у Гайнаўцы прыняў нашу крытыку пад увагу і, што змог, направіў. Цешымся, што гайнаўскія крамы будуць выглядаць прыгажэй, а ВЗГС аддзелу ў Гайнаўцы дзякуем за ўласцівыя адносіны да нашай крытыкі“.

Заглянулі мы ў гайнаўскі ВДТ у ліпені гэтага года. Хацелі пацешыць вока прыгожымі дэкарацыямі вітрын. А тут усё па-ранейшаму. Як калісьці. Як тады, калі мы задумалі ўзняць крытыку. Нічога тут не змянілася. Вітрыны адстрашваюць пакупнікоў. Астаецца пацешыцца прыгожым адказам дырэктара П. Бурылы. Можа пасля чарговай крытыкі дырэктар дадзенае слова стрымае? Бо, аказваецца, дырэктару лёгка даць абяцанне, горш аднак яго здзейсніць канкрэтным чынам. Каму тады ў канцы канцоў рэдакцыя мае давяраць?

(ця)



 

**ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ**



# ПЯТРО ФІРСЮК

Адны кажуць што гэта Клейнікі, другія што хутар Тынкоўшчына, але ані тое, ані гэтае не адыгрывае вялікага значэння. Хопіць толькі спытаць у жыхароў навакольных вёсак, дзе жыве Пятро Фірсюк, а кожны вам скажа: — А, гэта той, што авечак гадуе! То калі будзеце ехаць з Клейнік той шашой, што ў Чыжы, дык там, дзе яна робіць паварот налева, вы павярніце направа. Дарога добрая.

Даволі вялікая плошча, абгароджаная плотам, падзяляецца на дзве часткі. Тая, што бліжэй дарогі, значна большая, — гэта выган. Пасецца цэлая авечая армія. Другая — панадворак. Кругом стаяць гаспадарчыя будынкі і вялікі прыгожы драўляны дом з тэлевізійнай антэнай. Гаспадара засталі мы за рулём трактара. Якраз вярнуўся з поля. Пятро Фірсюк, якому ў працы дапамагаюць бацькі, жонка і дзве дачкі, гаспадарыць на трыццаці двух гектарах. Але не гэта найважнейшае. Хаця, праўда, і з зямлі таксама многа дае дзяржаве. Вось хаця б тыя сем гектараў жыта, што законтрактаваў. Гэта ж ужо многа. Зямля тут добрая, пшанічная. Збожжа таксама вельмі добра родзіць — пяцьдзесят шэсць цэнтнераў з гектара. Маюць таксама чатыры гектары лесу. Але ўсё гэта яшчэ не тое, што з'яўляецца галоўным. Тут ужо ўсё ідзе адной лініяй.

Пятру Фірсюку сорак адзін год. Цяга да гадоўлі праявілася, аднак, намнога раней. Гадаваў усё, што толькі было можна: курэй, гусей, кароў, а сем гадоў таму назад заняўся авечкамі, наладжваючы адначасова супрацоўніцтва з Ваяводскім гуртком гадоўцаў. Пабудаваў сваю аўчарню. Але калі гадоўля павялічылася да двухсот штук і стала цеснавата, распачаў пабудову новай. Дык авечак ёсць дзвесце штук, у тым ліку пяцьдзесят чатыры маткі і трыццаць восем бараноў. Гадоўля, як відаць вялікая, і ў сувязі з гэтым дзяржава таксама атрымоўвае вельмі многа. Кожны год прадаюць ёй яны ад шасцісот да васьмісот кілаграмаў воўны і штосьці каля пяцідзесяці штук авечак на мяса.

Як выглядае справа з кормам? Летам усё звычайна. Выган пад бокам. На зіму ўжо трэба забяспечыцца. Перш за ўсё робяць сіласы. У мінулым годзе мелі толькі адзін, а ў гэтым годзе дабудавалі яшчэ два новых. Сеюць травы і розныя кармавыя расліны. Вось хаця б у гэтым годзе: засеялі паўтара гектара кукурузы. Сеюць таксама сумесь аўса і ячменю, з чаго выходзіць вельмі добры корм. Многа садзяць бульбы, а найбольш „флісакоў". Але ўсё ж такі трэба і дакупіць. Дакупляюць штосьці каля 30% трэсцівых кармоў, якія прызначаюць на корм для ягнят.

Ну, а як з падрыхтоўкай да гэтай спецыялізацыі? Усё вынесена з уласнай практыкі, не лічачы тых дробных курсаў, як курс стрыжэння авечак, які быў у Любліне. Дапамагаюць тут і розныя экскурсіі, а таксама і тэлебачанне.

П. Фірсюк — чалавек працавіты. Ну, але і праца яго дае яму плады. Мае два трактары і ўсе патрэбныя да іх машыны. Мае таксама сваю ўласную легкавую машыну „Дачыя". На будучыню плануе значна павялічыць колькасць авечак, пабудаваць новую аўчарню і павялічыць колькасць сіласаў. Калі ўсё будзе ісці так, як цяпер, напэўна гэтага даб'ецца.

М. Шаховіч
Фота Я. Цялушэцкага

## Гандлёвыя дамы

Прыгожы сучасны гандлёвы дом быў адкрыты ў Гайнаўцы па вул. 1 Мая. Яго пабудова і поўнае абсталяванне каштавала шэсць мільёнаў злотых. Прадаюцца ў ім прамысловыя тавары. Дом мае вялікую гандлёвую плошчу (940 квадратных метраў) і склады. Працуе тут трыццаць прадаўшчыц пад кіраўніцтвам Ніны Вежбовіч. Маюць яны пакойчыкі для адпачынку і сацыяльныя памяшканні.

Прасторны гандлёвы павільён перадаў у карыстанне ГС у Міхалове. Прадаюцца тут прадуктовыя тавары. Павільён мае вялікую гандлёвую плошчу ў 265 квадратных метраў, сучаснае абсталяванне, у тым ліку вялікія халадзільныя шафы. У краме працуе восем прадаўшчыц пад кіраўніцтвам Генрыка Маленды. Людзі з Міхалова і бліжэйшых вёсак купляюць у новай краме хлеб, булкі, мяса, вяндліну, кансервы, рыбу, кандытарскія вырабы і г.д.

(ця)

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Колас Якуб,** Сымон-музыка, 1972, стар. 256, цана 13 зл. 20 гр.

Спецыяльнае выданне славутай паэмы нашага вядучага эпіка. Тэкст паэмы аздоблен стылістычнымі каляровымі ілюстрацыямі мастака Б. Заборава.

**Бядуля Змітрок,** Выбранае, 1973, стар. 434, цана 8 зл. 40 гр.

У гэты том прозы аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры ўвайшлі аповесці „У дрымучых лясах", „Салавей" і казка „Сярэбраная табакерка", а таксама лепшыя яго апавяданні: „На каляды к сыну", „Малыя дрывасекі", „Юлька" і іншыя. Асабліва карыснае выданне для школьнага ўжытку.

**Вітка Васіль,** Хто памагае сонцу, 1975, стар. 80, цана 3 зл. 20 гр.

Зборнік вершаў, казак і перакладаў для самых малых чытачоў з каляровымі густоўнымі малюнкамі мастака Алены Лось.

**Слаўковіч Даір,** Па чым фунт ліха, 1975, стар. 144, цана 3 зл. 10 гр.

Зборнік цікавых апавяданняў, а таксама аповесць „Клуб вясёлых чамучак"

**БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ**

— усё гэта адрасуецца для чытачоў малодшага школьнага ўзросту.

**Скрышка Міхась,** Ад смеху не ўцячэш, 1975, стар. 160, цана 4 злотых.

Кніжка фельетонаў, баек, гумарэсак, жартаў, сатырычных мініяцюр, а таксама пародый, эпіграм і гумарэсак на антываенную тэму. Дасканалы гумар і для актораў на самадзейную сцэну і да „падушкі", каб паправіць сабе настрой.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
„Dom Książki", 15-089. Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)



**ПОМНІК — ТАНК**

З нагоды XXX гадавіны перамогі над фашызмам у Гайнаўцы быў адкрыты помнік-танк. Гэты танк адзін з першых увайшоў у Гайнаўку, калі Савецкая Армія вызваляла горад. Помнік-танк першы і адзіны помнік у Гайнаўцы. Ён стаіць у скверыку сярод дрэў, дзе збягаюцца вуліцы 1 Мая і Вызвалення.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# Новыя аб'екты аховы здароўя

Не так даўно новыя, па-сучаснаму абсталяваныя бальніцы былі пабудаваны і ўжо служаць усім у Сямяцічах і Лапах, гарадскі і раённы цэнтр здароўя ў Гайнаўцы.

Вясною гэтага года былі перададзены ў карыстанне работнікам службы здароўя новыя памяшканні. Для прыкладу, трыкатажнае прадпрыемства „Каро" ў Гарадку пабудавала даволі абшырны сацыяльны павільён. У ім памясціліся лекарскія кабінеты: тэрапеўтычны, стаматалагічны, хірургічных працэдур, амбулаторыя для жанчын і фізікатэрапія. Усе яны добра забяспечаны медыцынскім абсталяваннем. Служаць 630 рабочым (пераважна жанчынам) з прадпрыемства „Каро" і іншых мясцовых прадпрыемстваў, у якіх працуе звыш 500 чалавек. Дзеля пашырэння лекарскай апекі ў першую чаргу дзесяць гмінных цэнтраў здароўя атрымала службовыя самаходы, а да канца гэтага года лік іх павялічыцца на 15. У наступным годзе кожны гмінны цэнтр здароўя ў Беластоцкім ваяводстве будзе мець службовы самаход.

Ваяводскія ўлады службы здароўя паклапаціліся і пра большую колькасць месц у дзіцячых яслях. Між іншым, у Беластоку і Гайнаўцы. У ваяводскім горадзе мініяслі для 30 дзяцей былі адкрыты на самым маладым жыллёвым пасёлку „Прывакзальным-II" па вул. Майстроў ураджаю. У Гайнаўцы мініяслі для 24 дзяцей былі адкрыты нядаўна ў адным з першых будынкаў на жыллёвым пасёлку „Гайнаўка-II". Усе яны забяспечаны цацкамі, адпаведным абсталяваннем, маюць добрыя санітарныя ўмовы. Гэтыя яслі з'яўляюцца філіяламі большых гарадскіх ясляў. Дзякуючы мініяслям усё ж больш малых дзяцей мае належную апеку ў час працы іх маці. Адкрыцця ясляў чакаюць маці ў Саколцы, Дуброве і Сямяцічах. Найхутчэй спадзяюцца іх атрымаць жыхаркі з Сямяціч.

У бальніцы ў Саколцы дабудаваны памяшканні, у якіх лепшыя ўмовы атрымалі перш за ўсё жанчыны, якія прыходзяць сюды радзіць дзяцей. У тым жа горадзе ў трэцім квартале гэтага года распачнецца пабудова другой бальніцы. У апошні час павялічылася таксама колькасць месц у бальніцы ў Дуброве. Апрача таго, сёлета ў Сідры быў адкрыты цэнтр адпачынку для работнікаў службы здароўя на 40 месц. (ця)

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА** — **АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ**

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА VI

**Грамадскія вершы.** Да аптымістычнага цыкла трэба залічыць вершы „Восень", „У хаце светлай і прасторнай", „Ноч на Івана Купалу". Названыя творы толькі па настрою належаць да аднаго цыкла, па тэматыцы яны зусім розныя.

Верш „Восень" па сутнасці займае пераходную пазіцыю паміж прыродаапісальнай і грамадскай лірыкай. Твор прысвечаны асенняй прыродзе і цяжкай сялянскай працы ў часе жніва. Верш насычаны пазітывістычным настроем, пахвалой сялянскай працы. Пахвала гэта з асаблівай сілай праяўляецца ў апошняй страфе верша.

*Наш сявец, араты,*
*Земляроб, касец*
*Наш карміцель шчыры,*
*Брат наш і айцец.*

Вось у гэтым кароценькім па сваёй структуры і паэтычных прыёмах вершыку аўтар узнімае селяніна да рангі „карміцеля", „брата" і „айца".

Пісьменнікі-нашаніўцы вельмі часта атоесамляваліся з селянінам, апраналіся ў сялянскі касцюм, аднак рэдка хто ставіў селяніна вышэй чым сябе. Якраз робіць гэта ў „Восені" Паўловіч.

Верш „Ноч на Івана Купалу" таксама змяшчае ў сабе элементы прыродаапісальныя і грамадскія. Можна аднесці яго таксама да вершаў фалькпорных. „Ноч на Івана Купалу" гэта твор аб надзеі. Аўтар выкарыстоўвае ў ім легенду аб кветцы-папараці, якая цвіце ў ноч на Яна. Знаходка кветкі — гэта вялікае шчасце для таго, каму гэта ўдаецца.

*Хто пераможа сам страхі ўсе дзікія,*
*Вызваліць кветку із ведзьмавых рук, —*
*Той таямніцы пазнае вялікія,*
*Знаці не будзе ні крыўды, ні мук!*

Не выпадкова і тое, што гэты верш прысвяціў Паўловіч Янку Купалу, якога заўсёды трактаваў, як папараць-кветку і ў беларускім жыцці і ў беларускай літаратуры.

Апошні верш грамадскага цыкла „У хаце светлай і прасторнай" прысвяціў Паўловіч Якубу Коласу. І гэта прысвячэнне не выпадковае. Колас, як вядома, быў народным настаўнікам, а ўвесь верш — гэта ілюстрацыя навучання дзяцей у школе. У сваёй ідэйнай вымове верш гэты так, як і „Восень", набліжаецца да ідэі пазітывізму. Калі аднак у „Восені" паявіўся пазітывістычны культ працы, то тут выступае культ навукі. Карціна вясковай школы ў вершы паслядоўна рэалістычная.

*У хаце светлай і прасторнай*
*Холадна бясконца;*
*Праз акно хаты паглядае,*
*Ды не грэе сонца.*
*А на лаўках, скачанеўшы,*
*Ціха сядзяць дзеці,*
*Іх цікавіць, што вучыцель*
*Кажа ім аб свеце.*
*...Мерзнуць дзеці і вучыцель*
*У халоднай хаце;*
*Іх душа адным сагрэта:*
*„Навука — багацце".*

Быць можа, што гэты верш належыць да найбольш аптымістычных твораў паэта. Спалучэнне паняццяў — дзеці і навука складае найбольш перспектыўную і аптымістычную з'яву ў гісторыі кожнага народу.

З ахарактарызаваных твораў Паўловіча, залічаных намі да грамадскіх вершаў, бачым, што пісьменнік гэты не пакінуў занадта багатай сацыяльнай літаратурнай спадчыны. Усяго каля дзесяці вершаў. Аднак трэба падкрэсліць, што грамадскі матыў выступае таксама ў патрыятычных творах пісьменніка, аб якіх яшчэ будзем весці гутарку.

Трэба падкрэсліць, што грамадскія вершы наогул утрыманы ў тыповым для большасці нашаніўскіх паэтаў духу скаргі і надзеі. Паэт бачыў усе беды і няшчасці сельскага побыту. Не ідэалізуе ён рэчаіснасці, наадварот, часта канцэнтруе чорныя фарбы ў сялянскіх карцінах. Аднак, у канцы канцоў верыць у лепшую будучыню. Характэрна, што лёс краіны, а тым самым і народу, увасабляе паэт у сялянскім класе. Праўда, паяўляецца ў вершы „У хаце чыстай і прасторнай" постаць інтэлігента-настаўніка, аднак гэта не змяняе галоўнай тэндэнцыі, паводле якой багацце — гэта селянін.

## ЧАМУ ЗАКРЫТЫ БУФЕТ?

На чыгуначнай станцыі Нараўка ўжо даволі доўга закрыты буфет з прадуктовымі таварамі і прахаладжальнымі напіткамі, якія дастаўляў сюды нараўкаўскі ГС. Раней ён быў адкрыты нават у нядзелі і святочныя дні ў той час, калі прыязджаў поезд з Гайнаўкі ды ехаў у Семяноўку або яшчэ далей, у Цісоўку, і вяртаўся назад.

Буфет быў вялікай выгадай і для ўсіх тых, хто выбраўся ў падарожжа, і для мясцовых жыхароў вёскі Плянта, і для адпачываючых ды рыбаловаў, якія ўсё часцей прыязджаюць на чыстую і жывапісную раку Нараўку.

Невядома, чаму буфет закрыты — не было ніякай аб гэтым аб'явы. Многія па-ранейшаму прыязджаюць выпіць ліманад, фруктовы напітак або мінеральную ваду і вяртаюцца дадому з нічым.

ГС у Нараўцы павінен больш дбаць пра сваіх кліентаў, раней інфармаваць і папярэджваць аб кожнай змене ў гандлёвых крамах, а не пастунаць з імі, быццам з надакучлівымі мухамі — чым хутчэй іх пазбывацца. У канцы канцоў ГС — гэта ўстанова, створаная з мэтай абслугоўвання людзей, кансументаў.

**Іван Непаседа**

## Адпачынак вясковых дзяцей

У час жніва, калі бацькі працуюць у полі, вельмі важна, каб малыя дзеці мелі належную апеку. З гэтай мэтай на Гайнаўшчыне і Бельшчыне арганізаваны шматлікія дзяцінцы пад апекай настаўніц і выхавацельніц з прадшколля. Усімі справамі арганізацыі і вядзення дзяцінцаў займаюцца дырэктары гмінных школ.

У Гайнаўскай гміне ў арганізаванне дзяцінцаў уключыліся перш за ўсё: гмінная ўправа, ГС, малачарскае прадпрыемства, ПГР Новаберазова, спулдзельчы банк і спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў. Грошай сабрана 80 тыс. злотых. Вясковыя дзяцінцы дзейнічаюць у Барысаўцы (тут быў арганізаваны сёлета самы першы дзяцінец), Махнатым, Старым Беразове, Чыжыках, Арэшкаве, Пасечніках Вялікіх.

У гміне Бельск многа ўвагі арганізаванню вясковых дзяцінцаў прысвяціла спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў. Пры яе дапамозе у большых вёсках арганізавана пятнаццаць вясковых дзяцінцаў для 200 дзяцей. Між іншым у Бельску, Кожыне, Ступніках, Аўгустове, Лубіне Касцельным. Усе дзеці забяспечаны рознымі цацкамі і неабходным абсталяваннем для гульняў. Дзеці шмат чаму вучацца. Гэта ім прыдасца ў школе. Бо дзяцінцы — гэта не толькі вялікая выгада для бацькоў, але і своеасаблівая школа жыцця для дзяцей.

(ця)

## ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




*Подзекуймо Богу, поповы своёму,*
*што нашых дыток звіенчаў,*
*за шлюб ні мало ўзяў:*
*чэтыры золотые,*
*за нашы молодые.*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Мiсеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ЗУБРЫ ЯРОЦКАГА

Вялікае зацікаўленне сярод наведвальнікаў Прыродазнаўчага музея БНП у Белавежы выклікаюць чучалы двух зуброў, упаляваных у 1830 г. праф. др Феліксам Паўлам Яроцкім (1790–1865), арганізатарам і кіраўніком заалагічнага кабінета Варшаўскага універсітэта. Зубры гэтыя шчасліва праіснавалі амаль паўтаравяковы перыяд, каб урэшце ў 1972 г. зноў трапіць у Белавежу, ды не ў пушчу, а ў яе музей.

Як адбывалася гэтае паляванне? Пачалося ўсё ад таго, што Варшаўскаму універсітэту былі патрэбны два зубры. Каб іх упаляваць, трэба было атрымаць дазвол. Цар Мікалай I не меў нічога супраць, і такім чынам праф. Яроцкі 8 лютага 1830 г. едзе ў Белавежскую пушчу і спыняецца ў сяле Каралёвы Мост. Не застаўшы двух служачых, якія павінны былі суправаджаць паляванне, піша ў Гродна паведамленне аб сваім прыездзе. Яно даходзіць праз стралковыя стойкі. На шосты дзень з Гродна, што ад Каралёвага Мосту 22 мілі, прыбыў у намесніцтве старшага губернскага ляснічага — Ёнат Ту-Ган Бараноўскі, а праз два дні капітан-спраўнік Шпінэк з Пружаны.

Паляванне пачалося 15 лютага. Лясныя вартаўнікі дзень перад гэтым нагледзелі адзінокага самца ў Акульніцкай стражы, непадалёку ад сяла Белавежа. Праф. Яроцкі і суправаджаючыя яго ўдзельнікі палявання прыбылі на месца між гадз. 15.00 і 16.00, хаця адправіліся з самага ранку. Першы выстраліў 70-гадовы стралок Тамаш Шпаковіч з Белавежы. Стрэл быў меткі, ды каб палажыць такога звера, як зубр, трэба было яшчэ некалькі разоў выстраліць. Зрабіў гэта ўжо памешчык Кшыштоф Энгельгардт. Самец важыў каля 14 цэнтнераў, а паміж яго рагамі магло сесці двое мужчын. Калі выкінулі нутро, павезлі зубра ў Белавежу, куды таксама паехалі ўдзельнікі палявання. Яроцкі, Бараноўскі, памешчык Эйсмунд і яго камісар павячэралі і пераначавалі ў спамянутага стралка Шпаковіча, які ў сваёй хаце арганізаваў школу для дзяцей, хаця сам не ўмеў ані чытаць, ані пісаць.

На другі дзень усе адправіліся ў Аўгустоўскую страж. Дзень быў непагодлівы, ішоў густы снег і дзьмуў вецер. Каб праверыць, ці ў спатканай чарадзе знаходзіцца саміца (бо цяпер яе трэба было ўпаляваць), вымушаны былі праганяць некалькі разоў цэлую чараду, а калі ўпэўніліся, мінула гадз. 15.00. На гушчар, дзе схаваліся зубры, рынула аблава. Зубры выскачылі і накіраваліся ў напрамку стаянкі падводаў, але спалоханыя павярнулі на аблаву. У зручны момант выстраліў Барталамей Мартысюк. Раненая саміца бегла яшчэ 100 метраў з чарадой, затым адлучылася і направілася ў гушчар. Тут яе і дабілі.

17 лютага Яроцкі выехаў з ачышчанымі зубрамі ў Варшаву. Іх прэпараваннем заняўся чучальнік Вяжэйскі. Саміцу выпхаў у красавіку, а самца ў маі. Шкада толькі, што пры выпіханні зуброў недзе падзеліся іх гарбы. Зрэшты, нічога дзіўнага, Вяжэйскі ніколі гэтай звярыны жывой на вочы не бачыў. А па самай толькі скуры цяжка прадставіць сапраўдныя формы. Смяшней, што на падставе гэтых дэфармаваных чучал чарцёжнік намаляваў два малюнкі, якія падпісаў, як выкананыя з натуры. Яны былі шматразова рэпрадукаваны, і менавіта, на іх гледзячы, людзі мелі ўяўляць сабе, якімі з'яўляюцца сапраўдныя зубры. Ды гэта ўжо іншая справа.

Чучалы зуброў крыху паліналі за гэтыя 146 гадоў, ды ўвогуле трымаюцца яшчэ добра. Працаўнікі музея асабліва дбаюць пра іх.

Тэкст і фота **П. Байко**



Цікавы калектыў са Збуча (гміны Чыжы) выступаў на конкурсе ўпершыню.

Фота Я. Цялушэцкага




## З маёй званіцы

### РАСЧАРАВАНЫ

Калі я нарадзіўся, а гэта было даўно, бабка, якая прымала малыша, сказала:

— Ну і слаўны прадбачыцца сыночак. Пупавіна закруцілася аж два разы, відаць, генералам будзе. Бацькі, старэйшыя браты і сёстры смяяліся з такой прыкметы і такога прадвяшчання, бо я быў вельмі слабенькі, ледзь дыхаў, але дыхаў і пачынаў крычаць, хаця спачатку слабенька. Пасля падрастаў і крычаць так мне спадабалася, што не даваў дома нікому супакою. Усе не маглі спаць з-за майго крыку.

— Што рабіць? — раілася маці ў той самай бабкі.

Бабулька многа чаго ведала, думала, думала і прыгадала, што рабіць у такіх сітуацыях. Яна параіла:

— Ведаеце што, палажыце малога на падлогу, накрыйце капанькаю і цераз капаньку пераражаніце сабаку.

Гэта было лёгка выканаць, так і зрабілі. Але сабака, мусіць, быў разумны, нюхнуў, нюхнуў і не захацеў перайсці цераз дзіцё.

Памятаю, як часта дома смяяліся з таго „генерала", але я быў упэўнены, што калі ўжо не буду генералам, дык усё ж такі буду кімсьці знатным, ну можа сяржантам, маёрам ці іншым вайскоўцам. Быць вайскоўцам — гэта былі мае мары і летуценні. Як падрос, стругаў драўляныя шаблі. З такой шабляй, прывязанай да боку, хадзіў, нібы даўнейшы шляхціч.

І паверце, нічога з маіх мараў не выйшла, відаць, старая бабка ашукала, так як ашукваюць і маладыя бабкі, бо я не толькі не служыў у войску, але за сваё жыццё нават ні разу не выстраліў. А што да знатнасці, то знаюць мяне толькі аднавяскоўцы. От, жыву ціхенька і капаюся на сваім кавалку зямлі. А да бабак, і старых і маладых, страціў веру.

**Рэшутас**

## Andrzej Rosiewicz



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала
*Тамара Kанаnюк з Васькоў.*

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Р. мае гаспадарку 11 га з будынкамі. Яна пражывае на гаспадарцы, на якой фактычна 12 год працавалі яе дачка і зяць. Р. атрымала ад адміністрацыйных улад акт уласнасці. У 1973 годзе дачка памерла, а зяць ажаніўся з іншай. Цяпер ён хоча пазбыцца Р. і ўсяляк ёй дакучае. Ён лічыць, што паколькі карыстаецца з гаспадаркі больш 10 год, ніхто яго не можа пазбавіць гэтага права, тым больш, што ён пабудаваў некаторыя будынкі. Большую частку інвентара, які знаходзіцца на гаспадарцы, купляў зяць, але з даходаў з гаспадарства. Ці можа Р. патрабаваць прымусовае высяленне зяця і як павінна быць вырашана справа будынкаў, якія пабудаваў зяць, і інвентара?

АДКАЗ: Паколькі Р. працавала на гаспадарцы і лічылася ўласнікам гаспадаркі, што пацверджана актам уласнасці, прызнаным адміністрацыйнымі ўладамі, зяць не мае права на гаспадарку незалежна ад таго, як доўга карыстаўся з гаспадаркі. Р. мае права патрабаваць, каб зяць пакінуў гаспадарку. Што датычыцца будынкаў, пабудаваных зяцем, то яму прыслугоўвае права да звароту зробленых капіталаўкладанняў. Ён можа патрабаваць, каб суд узалежніў яго высяленне ад заплаты яму за іх. Інвентар, які ён набыў хоць бы і з даходаў гаспадарства, якія паўсталі з яго працы, ён можа забраць. Інвентар, які знаходзіўся на гаспадарцы або быў набыты за грошы, атрыманыя за інвентар, які з'яўляўся ўласнасцю Р., павінен быць ёй звернуты.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астрон! Снілася мне, што я была ў цырку. Сядзела высока, а ўсе іншыя ніжэй ад мяне. З правага боку была мая сяброўка, а з левага — незнаёмы мужчына. Потым я хацела адтуль выйсці. Але ў дзвярах быў старэйшы, з барадою, дзядок. Сказаў мне, што тут я не магу выйсці, бо мыюць падлогу. Асталося толькі пазбіраць ваду. Была ўжо вельмі чыстая падлога. Але каб не следаваць, я выйшла іншымі дзвярыма. Бачу вялікае дрэва, разгалістае, зялёнае. Пад ім маладая зялёная трава. І там я спаткала хлапца. Адтуль вядуць чатыры дарогі: жвіроўкі, гладкія, шырокія, як шаша. Пад дрэвам ёсць дзве фуры. У адной запрэжаны белы конь, а ў другой чырвоны. Белы знае, кудою мяне везці дадому, а я не знаю. Чырвоны конь знае, куды везці хлапца дадому, а ён не знае. Але я загаварылася, і белы конь уцёк на ўсход. Хлапец мне сказаў, што чырвоны конь знае, куды нас везці. Я мусіла ехаць чырвоным канём з тым хлопцам.

Другі сон таксама быў цікавы. Сніцца, што я іду ў лес па грыбы. Вядзе мяне чорны з белымі лапкамі бычок і тлусценькі. Ён як быццам наш. Уваходжу ў лес, а тут так прыгожа. Зялёная маладзенькая трава. Дзе калісьці былі балоты, паявіліся прыгожыя кветкі і зялёная трава. Мяне бычок завёў да прыгожага краснюка. Я яго вырвала. Але знайшла толькі адзін грыб. Бычок завярнуўся на зялёнае жыта і на пасбішча. А я не магла яго завярнуць. Мусіла пагадзіцца з тым адным краснюком.

**Аня з Беласточчыны.**

Аня! Вы апыніцеся вышэй за вашых фальшывых сяброў. Дапамогуць вам у гэтым нейкая сяброўка і хлапец. Усё будзе добра. Аб гэтым сведчыць дабрадушны дзядок, што стаяў у дзвярах, калі вы хацелі выйсці з гэтага „цырку". Ды добра, што не наставілі слядоў на той памытай падлозе, а выйшлі іншымі дзвярыма. Аб паспяховым вырашэнні вашых спраў (у сувязі з нейкім хлопцам) сведчыць разгалістае зялёнае дрэва і маладая зялёная трава, а таксама гладкія і шырокія жвіроўкі. Дзве фурманкі, якія вы ўбачылі, азначаюць хісткую, няпэўную справу, але былі ж запрэжаныя коні. Конь азначае перамогу (а чырвоны ж конь павёз вас разам з хлопцам...).

Другі сон ваш гаворыць аб тым, што будуць у вас нейкія промахі ў сардэчных справах (бо вёў вас да грыба бычок, хаця і быў ён мілы і ваш). Але ўсё ж вы вырвалі гэты прыгожы грыб, значыць, будзеце мець поспех у каханні. Аб будучай радасці сведчаць і тыя прыгожыя кветкі ды маладзенькая трава, што паявілася на былым балоце. Вашы былыя промахі павернуцца ў добры бок, як бычок павярнуў у зялёнае жыта.

**Астрон**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ВЁСКА ПАД ВОБЛАКАМІ

Найвышэй у Еўропе ляжыць вёска Ушгулі (Грузія). Яна на вышыні 2.200 метраў над узроўнем мора. Гэтая вёска багатая памяткамі гісторыі і культуры старога сванскага народа. Асаблівай арыгінальнасцю і трываласцю вылучаюцца абаронныя вежы вышынёю прынамсі трохпавярховага дома, пабудаваныя 10-12 стагоддзяў назад. Аздобай вёскі з'яўляецца архітэктурны комплекс з 12 святынь. Для прыезджых наведвальнікаў найцікавей убачыць перш за ўсё царкву Ушгульскай Багародзіцы. У ім захаваліся манументальныя фрэскі, бясцэнныя іконы, аздобленыя каштоўнымі каменнямі. (ця)




Жыву на вёсцы, з бацькамі працую на гаспадарцы. Старэйшы брат пайшоў жыць у горад, а я застаўся на гаспадарцы, бо яна мяне з малых год цікавіла. Гаспадарка ў нас добрая, работа ў многім механізаваная, толькі вось маладой гаспадыні ў хаце бракуе. Але ажаніцца хлопцу на вёсцы нялёгка, усе дзяўчаты ў горад пруцца. Я аднак трапіў на дзяўчыну, якая таксама гаспадарку любіць. Дзяўчына даволі прыгожая, стройная. Ужо мінула паўгода, як я з ёю пазнаёміўся. Ужо аб шлюбе гаварылі. Бацькі рады. Асабліва цешыцца маці, бо ўсё наракала, што адной бабе работы не перарабіць. І ўсё было добра ішло, пакуль не ўмяшаліся вясковыя пляткаркі. Адна нават затрымала мяне на вуліцы і далажыла, што дзяўчына мая хворая. Але я ёй так адказаў, што, мусіць, ужо больш нікога не зачэпіць. Але атакуюць не толькі мяне, а яшчэ больш маю маці. Зачапляюць, усяляк на дзяўчыну гавораць. А маці, бачу, ужо і верыць ім стала. Аднойчы кажа мне, што мо вяселле на зіму адлажыць, а раней усё падганяла, каб хутчэй. Ды, крыху і сорамна прызнацца, але і я стаў задумоўвацца, мо ў гэтай бабскай папляніне дзе крыху і праўды ёсць? Але і баюся, каб праз гэтыя пляткарствы наша вяселле не разляцелася. Памажы мне, Сэрцайка, у маіх клопатах.

Міша з Дуброўшчыны

Міша, плёткам верыць — век не ажаніцца. А пляткарства на вёсцы даволі закаранелае і шмат робіць шкоды людзям. Не ты першы і не апошні ім заатакаваны. Ніводнага вяселля на вёсцы не абмінуць пляткарскія языкі. І важна, каб умець даць ім належны адпор. Выкінь ты з галавы падазрэнні, якія зрадзіліся ў цябе пад уплывам пляткарства. Пераканай маці і спакойна згуляйце вяселле.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




### ФРУКТЫ, ГАРОДНІНА — УПРЫГОЖВАЮЦЬ!

Трэба прызнацца па шчырасці, што аб тым, як зрабіць твар прыгажэйшым у летнім сезоне, калі поўна агародніны і фруктаў, большасць жанчын чытае з вялікай ахвотай. Чытае, але ці выкарыстоўвае парады? Рэдка! А шкада, паколькі вітамінныя масачкі са свежай гародніны і фруктаў з'яўляюцца адным з найбольш карысных прэпаратаў, якія падтрымоўваюць малады выгляд скуры твару.

А вось некалькі агульных уваг:

перад тым, як будзем рабіць масачку, трэба старанна памыць твар і шыю, а вельмі сухую скуру змазаць тлустым крэмам;

валасы падвязаць шырокім эластычным бінтом;

адразу прызначыць для сябе мінут 30-40 і ўвесь гэты час ляжаць спакойна, адпачываючы; калі будзем хадзіць з масачкай, яе ўздзеянне будзе ўдвая менш паспяховым;

на масачку трэба выбіраць фрукты спелыя, здаровыя, а не такія, якія ўжо да нічога не падыходзяць;

змываць масачку трэба ватай і цёплай вадой; змыўшы, змазаць твар крэмам і прынамсі гадзіну часу не маляваша.

**Масачка з морквы:** 2 маладыя морквіны сцерці на тарцы, змяшаць з чайнай лыжкай крухмалу і адным жаўтком, плоскім пэндзлем намазаць масу на твар і шыю. Гэтая масачка асабліва карысная для тых, у каго вельмі бледная скура.

**Масачка з зялёнага гарошку:** некалькі звараных гарошын стаўчы, дадаць лыжку салодкай смятанкі і добра размяшаць. Гэтая масачка добра выгладжвае скуру, а тлустую скуру робіць матавай.

**Агурковая масачка:** можна яе падрыхтоўваць па-рознаму. Напрыклад, падрыхтоўваючы агуркі на мізэрыю, пакінуць пры скурцы крыху мякішу і пасля аблажыць лупінкамі твар. Можна сцерці на шкляной тарцы сочны агурок і атрыманай масай памазаць твар. Можна таксама збіць адзін бялок і змяшаць яго далікатна з лыжкай агурковага соку. Гэтая масачка асабліва выбяляе скуру.

Варта таксама ведаць:

**абрыкосы** лагодзяць скуру і робяць яе больш эластычнай;

**баклажаны і кабачкі** размякчаюць занадта сухую скуру;

**парэчкі** сцягваюць поры;

**персікі** выгладжваюць, naваднюць і робяць скуру далікатнай.

**Эскулап**






— Карацей кажучы, — рабіў вывад капітан Маер, — шматлікія амурныя прыгоды „атамана", сытае жыццё ў царскіх харомах, сістэматычныя п'яныя оргіі добра падчысцілі генеральскую казну, ён нават пусціўся на дробнае махлярства.

— У чым яно заключаецца? — Рыдз Сміглы слухаў капітана Маера і вымушаны быў прызнацца сабе, што вельмі многа яму невядома. Тое-сёе з жыцця „бацькі" ён ведаў, але толькі тое-сёе. У Маера ж столькі фактаў і дэталяў...

— А махлярства „атамана" такое, — заахвочаны ўвагай генерала, з натхненнем працягваў Маер. — Англійская фірма „Цэнтура", якая нарыхтоўвае драўніну ў Белавежскай пушчы, даручыла Балаховічу як дырэктару работ закупіць рабочых коней. Ён ахвотна ўзяўся за справу, закупіў нейкіх здыхлякоў, а фірме падсунуў фінансавую справаздачу як за пародзістых. Балаховіч паклаў у кішэню добры куш, але і англічане не дурні. Яны даволі хутка раскусілі афёру дырэктара. Давялося ўмешвацца нам, уціхамірваць скандал.

— Знайшоўся мне генерал! — гідліва зморшчыўся Рыдз Сміглы. — Яму ж і так англічане плацяць вялікія грошы за тое, што запрадаў ім сваіх „сынкоў" на лесараспрацоўкі.

— Але гэта яшчэ не ўсё, пан генерал. Літаральна гэтымі днямі Балаховіч спрабаваў разлічыцца ў рэстаране фальшывымі чэкамі. І зноў нам, работнікам двуйкі давялося выручаць „бацьку".

Рыдз Сміглы слухаў Маера, і перад яго вачыма паўставаў вобраз славалюбнага кар'ерыста і авантурыста, нахабнага і беспрынцыпнага прайдзісвета, баязлівага ваякі, жулікаватага і прагнага дробнага дзялка, распуснага донжуана. І Сміглы прыняў прапанову Маера. Ён быў перакананы: Булак-Балаховіч згодзіцца ўзначаліць супрацьпартызанскія сілы, „ бацька" і яго „сынкі" павінны справіцца з Мухам і іншымі партызанскімі атаманамі. Рыдз Сміглы лічыў, што ад гэтага залежала не толькі будучыня ўсходніх крэсаў, але і яго ўласная. А меціў Сміглы далёка — на пасаду прэзідэнта краіны.

Праз некалькі дзён генералы сустрэліся.

— Ці не надакучыла вам, Станіслаў Нікадзімавіч, насіць цывільны касцюм, быць начальнікам мірных лесарубаў? Ці не застаяўся баявы конь? — хаваючы хітрую ўсмешку, спытаў у Булак-Балаховіча Рыдз Сміглы.

— Адкажу проста, па-салдацку: так, надакучыла. І тут не мая віна. Але я не бачу, пан генерал, другой, сапраўднай справы. — Хоць у душы Балаховіч называў Рыдза Сміглага выскачкам, але яго ўзрадавала ўвага гэтага самаўпэўненага генерала.

— Якраз для размовы аб сапраўднай справе я і запрасіў вас, Станіслаў Нікадзімавіч, — адказаў Сміглы.

Кіраўнік „аперацыяй на ўнутраным беларускім фронце" расказаў Балаховічу пра размах партызанскага руху на ўсходніх крэсах, пра той вялікі неспакой, які прыносяць ураду, паліцыі, памешчыкам і асаднікам партызаны. І чым болей гаварыў Сміглы, тым болей дзівіўся Балаховіч: у Сміглага ні разу не вырваліся словы: „бандыт", „бандыты".

— Партызан, партызаны, а дзе ж бандыты? — паціснуў плячыма „бацька".

— Так, паважаны Станіслаў Нікадзімавіч, менавіта партызаны. І калі ў перапісцы паліцэйскія чыны, старасты, работнікі двуйкі называюць Муху, Аршынава, Смольскага і іншых партызанскіх камандзіраў бандытамі — гэта іх справа. І калі нашаму друку таксама не надта падабаецца слова „партызаны" — гэта, паўтараю, яго справа. Асабіста я лічу за лепшае называць рэчы сваімі імёнамі і таму падкрэсліваю — не бандыты, а партызаны не даюць спакою на ўсходніх крэсах. — Сміглы ўстаў, падышоў да сцяны, адсунуў шторку. Балаховіч убачыў карту ўсходніх крэсаў, на якой густа было наторкана рознакаляровых сцяжкоў. Асабліва шмат было чорных. — Вось глядзіце, — звярнуўся Сміглы да Балаховіча. — Чорныя сцяжкі азначаюць разгромленыя паліцэйскія пастарункі, белыя — месцы баёў партызан з паліцыяй і войскамі, жоўтыя — захоп маёнткаў, населеных пунктаў. Усе гэтыя аперацыі пад сілу толькі добра арганізаваным, дысцыплінаваным партызанскім злучэнням, якія маюць вопытных, храбрых і фанатычна адданых сваёй справе камандзіраў.

— А ці не перабольшваеце вы, пан генерал? — вырвалася ў Балаховіча.

— Не. Дрэнна тое, што раней мы недаацэньвалі іх і спаборнічалі ў тым, хто найлепш зняважыць іх, абзаве. А тут адзін толькі Муха чаго варты!

# ТРЫБУНА чытачоў

З чыгуначнай Чаромхі

## У святочным настроі

Нядаўна ў рэстаране „Прыгранічная“ ў Чаромсе адбылася нештодзённая ўрачыстасць. З нагоды дня чыгуначніка ГДР, саветнік пасольства ГДР у Польшчы па справах камунікацыі арганізаваў сустрэчу з чаромхаўскімі чыгуначнікамі. У сустрэчы прынялі ўдзел: дэлегацыя працаўнікоў цэнтральнай і раённай дырэкцыі ПКП, партыйна-прафсаюзны актыў і перадавыя чыгуначнікі гандлёвай службы станцыі Чаромха.

Усіх прысутных сардэчна прывітаў саветнік пасольства, які запрасіў гасцей на святочны кактэйль. У час сардэчнай сяброўскай атмасферы былі праведзены размовы на тэму супольнай службы. Чыгуначнікі мелі таксама магчымасць пакаштаваць славутае нямецкае піва.

У заканчэнні сустрэчы саветніку пасольства сардэчна падзякаваў ад імя цэнтральнай дырэкцыі ў Варшаве дырэктар Будзікоўскі і ад імя чаромхаўскіх чыгуначнікаў — начальнік станцыі Ежы Напюркоўскі.

* ✲ *

У гэты ж дзень у доме культуры „Калеяж“ адбыўся канцэрт цыганскага калектыву „Тэрно“, які завітаў у Чаромху. Чыгуначнікі ўжо другі раз сустрэлі знаёмых артыстаў — непаўторную прыгажуню Рандзю і іншых. Калектыў даў канцэрты не толькі ў Чаромсе, але і ў іншых мясцовасцях Беласточчыны. Рэжысёрам калектыву з'яўляецца Гіляры Курпанік. (ус)

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву“!




### ЛІПА

*Ліпа прыгожая, ліпа старая*
*расце магутна пад акном,*
*прыгажуня векавая —*
*яна свае песні пяе.*

*Шуміць пра мінулыя гады,*
*пра лясных братоў, што тады —*
*у 39-ым ішлі на ворагаў,*
*не глядзелі на свае 25 гадоў.*

*Спявае песню пра жанчыну,*
*што клала незабудкі на магілу,*
*дзявочыя слёзы горкія*
*ліла ў свежую зямлю.*

*Час гэты карціны людзям*
*у памяці ўсё мацней заціпае,*
*і толькі ліпа адным нямым сведкам*
*тых дзён на векі стане.*

**Ірына Грыгарук**

— Ведаю: 15 мільярдаў марак.

— Можна прызначыць і трыццаць, але вынік адзін: грошы будуць ляжаць у банку, а атаман Муха будзе наганяць страх на паліцэйскіх.

— Што ж вы прапануеце?

— Да гэтага якраз мы і падышлі, — адказаў Сміглы. — Мы вырашылі стварыць з абстраляных людзей, былых франтавікоў, спецыяльныя, добра ўзброеныя пешыя і кавалерыйскія супрацьпартызанскія атрады і размясціць іх ва ўсіх павятовых і многіх гмінных цэнтрах крэсаў.

— Гэта штосьці новае, цікавае, — заўважыў Булак-Балаховіч.

— Само сабой зразумела, — падкрэсліў Сміглы, ведаючы любоў „атамана“ да славы, — што гэтыя атрады павінен узначаліць баявы і вопытны генерал. І тут я спадзяюся на вас, дарагі Станіслаў Нікадзімавіч, і вельмі прашу прыняць на сябе абавязкі камандуючага супрацьпартызанскіх атрадаў.

— Для мяне гэта вялікі гонар. Даю генеральскае слова, што я з вернымі сынамі сваёй атаманскай арміі за месяц ачышчу беларускія лясы ад партызан! — з апломбам заявіў Булак-Балаховіч.

Праз некалькі дзён спецыяльныя ганцы Булак-Балаховіча выехалі ў месцы, дзе жылі яго „сынкі“. Яны везлі адозву „атамана“.

**(Працяг будзе)**

## Залатыя гады ў Крынках

У Крынках на Сакольшчыне адбылася ўрачыстасць, прысвечаная 50-годдзю супольнага жыцця пяці шлюбных пар, між іншым, Сцяпаніі і Язэпа Путко з Паўднёвага Вострава, Надзі і Паўла Кішкеляў з Крынак.

Усе пары атрымалі медалі за шматгадовае супольнае жыццё. Уручаў іх сакратар гміннага камітэта партыі і начальнік аддзялення шлюбаў у Крынкаўскай гміне. На ўрачыстасці, апрача сем'яў, прысутнічала многа жыхароў з усёй ваколіцы.

А я некалькі цёплых слоў з гэтай нагоды хачу сказаць аб Сцяпаніі і Язэпе Путко. Гэта вельмі цікавыя людзі. Язэп Путко заўсёды цяжка працаваў ад самых малых год. У восем год пачаў працаваць пастушком, а ў адзінаццаць — ужо ў гарбарні. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі быў у Расіі. Вярнуўся ў 1922 годзе і паступіў на працу ў смалярню ў мясцовасці Барсуковіна. Выгадаваў пяцёра дзяцей, якія жывуць на Беласточчыне. Адзін з іх з'яўляецца маёрам і займае высокі пост.

**Васіль Петручук**

## Смецце ў лесе

Дарога з Бельска ў Дубяжын вядзе праз Піліцкі лес. Яна пакуль палявая, а лес вельмі прыгожы. Пачынаецца ён у адлегласці аднаго кіламетра ад Бельска. Калі пройдуць дажджы, многія ідуць у лес за грыбамі. І звяроў тут многа. Гэты лес у будучыні, пэўна, стане паркам для горада. У той бок ідзе разбудова горада.

Аднак ужо цяпер трэба звярнуць увагу на адну справу. Па абодвух баках гэтай дарогі ў лес людзі скідаюць усялякае смецце. З гэтым трэба скончыць, так не ахоўваюць прыроду! Тут усюды неабходна паставіць аб'явы аб забароне высыпання смецця.

**Мікалай Няплоха**

## Цікавая сустрэча

Цікавая сустрэча адбылася ў канцы чэрвеня ў гайнаўскім „Доме рэзервіста“. Сустрэліся тут афіцэры рэзервы, каб пагаварыць аб плане далейшай дзейнасці ў сваіх клубах.

Праводзіў сустрэчу маёр Язэп Антанюк. Гаварыў ён пра тое, што зроблена і што трэба рабіць у бліжэйшым перыядзе. Пахваліў гайнаўскі клуб афіцэраў рэзервы. Клуб гэты мае вялікія дасягненні ў сваёй працы. Наладзіў ён цеснае супрацоўніцтва з гайнаўскімі прадпрыемствамі. Прысутныя на сустрэчы выказалі многа цікавых прапаноў і ўваг. Будуць яны выкарыстаны ў далейшай працы клуба.

**В. С.**

## Людзі чакаюць...

Пісалі мы ў 51 нумары „Нівы“ ад 21 снежня 1975 г. аб тым, што ў Шудзялаве дачакаліся зубнога лекара. І далей што: „пакуль кабінет яго змяшчаецца ў прыватным памяшканні, але ўжо хутка закончыцца пабудова новага будынка для цэнтра здароўя ў Шудзялаве. Людзі рады, чакаюць“.

У канцы ліпеня 1976 года на пабудове шудзялаўскага цэнтра аховы здароўя, інвестарам якога з'яўляецца ЗОЗ у Саколцы, работа яшчэ стаяла. Сакольскія прадпрыемствы мясцовай прамысловасці мелі да канца мінулага года закончыць пабудову цэнтральнага ацяплення і падключыць ваду. Работу распачалі, але пакінулі няведама чаму і на які час. А цэнтр аховы здароўя вельмі патрэбны жыхарам Шудзялава і Шудзялаўскай гміны. (ця)

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

26.06. 76 г.а 12.00 у вёсцы Валілы, што ў Гарадоцкай гміне ў Аляксандра Ц. згарэў дах мураванай аборы і каля тоны сена.

26.06.76 г. а 23.30 у вёсцы Вілянова, Мельніцкай гміны, згарэў дом Сяргея О. на агульную страту каля 60 тысяч злотых.

8.07.76 г. каля 9.40 на дарозе Васількаў-Саколка Раман Х. з Дамбровы Беластоцкай, які вёў самаход „Сірэна“, наехаў на Люцыну Н., 7 год, з Васількова. Пакалечаная дзяўчынка памерла ў бальніцы. (вл)

## Хто колькі?

Якія школы і колькі макулатуры сабралі і здалі за 1975/76 школьны год у Бельскай гміне? Вось яны:

Тэхнікум сельскагаспадарчага рахунказодства з Бельска — 791 кг, пачатковая школа № 1 з Бельска — 1080 кг, пачатковая школа № 2 з Бельска — 2177 кг, пачатковая школа № 3 (беларуская) з Бельска — 4010 кг., гмінная зборная школа — 1300 кг., група эканамічных школ з Бельска — 1380 кг, пачатковая школа з Райска — 600 кг, пачатковая школа з Плёсак — 500 кг. (мм)

## Дні Бельска - працяг

„Гарцэрская нядзеля“ — так называлася адна нядзеля ў час Дзён Бельска. У гэты дзень адбыліся кірмашы падручнікаў для сярэдніх школ, гарцэрскі кірмаш і кірмаш кніжак і памятак, веласіпедная гонка дашкольнікаў, малюнкі дзяцей на асфальце, паказ каляровых дыяпазітываў, футбольная сустрэча дзяўчат і канцэрты. Выступілі: „Падляшскія зязюлі“, дзіцячы калектыў „Маленькае Падляссе“ з Боцькаў, гарцэрскі хор „Світанне“, „Акарыны“ з Сямяціч, „Падляшскія жачкі“ з музычнай школы ў Бельску.

**М. Няплоха**

## Забытыя трубы

На вуліцы Пушкіна, непадалёку ад скрыжавання з Вуліцай Відаўскай, ляжаць забытыя трубы. З выгляду гэта трубы каналізацыйныя. Даўжыня іх каля чатырох метраў, а дыяметр каля 30 сантыметраў. Іх тут прыблізна дзесяць штук. Пішу „прыблізна“, бо каб дакладна палічыць, трэба было б улезці ў самы гушчар зелля, якім яны абраслі.

У мінулым годзе гэтыя трубы палажыла тут нейкае прадпрыемства. Навошта — невядома. І ляжаць так сабе, ляжаць, ляжаць. Стараўся я даведацца, хто з'яўляецца ўласнікам гэтых труб. Нічога з гэтага не выйшла.

А можа гарадскія ўлады Бельска зацікавяцца справай? Бо жыхарам вуліцы Пушкіна яны непатрэбныя. Нават дзецям з імі гуляць цяжка. (В.С.)

## Праца людзей у фотааб'ектыве

У Нараўцы насупраць будынка гміны стаіць габлёта. Тут кіраўніцтва гміннага цэнтра культуры экспануе розныя актуальныя фотаматэрыялы з жыцця гміны.

У апошні час шмат людзей затрымліваецца тут, каб паглядзець на здымкі, на якіх можна ўбачыць самога сябе, як кожны сам працаваў, як працаваў яго сусед, сябра і знаёмы. Такія выстаўкі вельмі папулярныя сярод насельніцтва.

**Аляксандр Закройшчык**

## Меліярацыйны роў у Кназазах

У нас адзін меліярацыйны роў падходзіць пад самую вёску, але ён вялікай карысці нікому не дае, бо не мае добрага адплыву. Пасярэдзіне вёскі ён бярэ пачатак, а далей — 60 метраў ад яго пачатку, ідзе палявая дарога, якая ў час дажджоў плавае ў вадзе ды гразі.

За кансервацыю гэтага рову бельскі Саюз водных суполак патрабуе ад нас грошай. І ўжо колькі год мы іх плацілі! Але чаму ён не зверне ўвагі на гэты адрэзак і не дакапае рову, каб асушыць дарогу?

**Міхал Кірылюк**




„У маім артыкуле пра выбары раённых камітэтаў у Гайнаўцы на месца Стасінкевіча трэба ўпісаць Францішка Пытко“, — паведамляе нам наш карэспандэнт **Эдмунд Вайсковіч.** Матэрыял быў ужо надрукаваны, калі прыйшла папраўка, таму даем яе на гэтым месцы.

**Кара-кум.** „Ці я магла б быць карэспандэнтам і пісаць аб падзеях з нашай вёскі? А ў нас ёсць нават шмат чаго цікавага“, — так пытае наш сталы чытач. Адказваем: але ж так, пішыце як найчасцей і аб усім, што падабаецца і што не падабаецца ў вёсцы і ваколіцы! Ужо лічым вас нашым карэспандэнтам. Адносна вершаў — таксама ёсць сэнс прабаваць свае сілы. Верш „Стаіш“ надрукуем.

## Сустрэча з сяброўкамі

Апошні год навучання ў Бельскім эканамічным ліцэі быў развітальны для нас — школьных сяброўак. Усе параходзіліся, параз'язджаліся па ўласных жыццёвых дарогах. Неяк не раз цікавілася я, хто і дзе жыве.

І вось у адзін чэрвеньскі дзень вярталася я дамоў і нечакана сустрэла сваю школьную сяброўку — Тамару Бяляўскую. Як жа прыемна было нам пагутарыць, а было аб чым — цэлы ж год не бачыліся. Абяцалі пісаць пісьмы.

Тамара адна з тых маіх сяброўак, якія чытаюць „Ніву“. Такіх у мяне іх больш. І ўсім ім я хачу перадаць сардэчныя прывітанні летам 1976 года.

**Джэны А.**

## Кляшчэлеўскі СКР

СКР у Кляшчэлях дзейнічае ўжо трэці год. Яднае ён амаль усе сельскагаспадарчыя гурткі з ваколіц Чаромхі, Кляшчэляў і Дубічаў Царкоўных. Вядзе разнастайную дзейнасць. Самую важную ролю адыгрываюць майстэрня рамонтных паслуг і тэхнічна-хімічныя паслугі для сялян.

Сельскагаспадарчая прадукцыя вядзецца на 1400 га дзяржаўнага фонду зямлі. Зараз працуе тут 170 працаўнікоў. СКР мае свае аддзяленні ў Ставішчах, Дубічах Царкоўных, Жуках, Палічнай, Саках і Кляшчэлях. За апошні 1975 год СКР выпрацаваў звыш аднаго мільёна злотых даходу. Як на пачатак, гэта вельмі многа. У далейшым СКР будзе пашыраць свае паслугі і павышаць прадукцыю на ПФЗ.

**Мікалай Няплоха**

## І ад прыбытку галава можа забалець!

Доўгі час жыхары вёскі Зубава ў гміне Бельск хадзілі на аўтобус чатыры кіламетры ў Пасынкі. Цяпер тут каля вёскі ідзе аўтобус у Кожына, там паварочвае і зноў едзе ў Бельск. Едзе ён так два разы ў дзень: рана і пасля абеду. Здаецца, чаго ж, лепш не трэба. Выйдзеш на канец вёскі — і едзь у Бельск без клопату. Усё было б добра, каб шафёр не ленаваўся ездзіць. А то так: калі рана едзе, дык пасля абеда святкуе, і наадварот. Будзь тут разумны і адгадай, калі ён паедзе.

У нашу вёску прыязджаюць да сваіх бацькоў дзеці і ўнукі. Вельмі ж прыемна ўбачыць і наведаць старых. А прыехаць — яшчэ палавіна бяды, вярнуцца, дык хоць ты плач. Асабліва ў нядзелю.Назбіраецца натоўп людзей: хто ў царкву ў Пасынкі, хто ў Бельск. Чакаюць, выглядаюць і вельмі крыўдна, калі аўтобус не прыедзе. Я і сама так ехала ўжо не раз, а каб не быць галаслоўнай, такое здарэнне было і 13 чэрвеня.

Цікава было б ведаць, калі ўрэшце гэты аўтобус будзе ездзіць рэгулярна?

**Джэны А.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

#### АДКАЗ, ЯКОГА МЫ ЧАКАЛІ

Жыхарка вёскі Сухінічы, Вольга Апановіч прасіла ў гмінных улад у Бабіках вызначыць ёй паўгектаравы ўчастак зямлі ў сувязі з тым, што яна перадала сваю гаспадарку дзяржаве за пенсію, але хацела б мець для сябе хаця б невялічкі агародчык на агародніну. Выніклі пэўныя перашкоды, таму В. Апановіч напісала ў рэдакцыю пісьмо, каб мы дапамаглі ёй у гэтай справе. (ця)

Вось адказ гмінных улад у Бабіках:

„Urząd Gminy w Babikach w odpowiedzi na skargę Ob. Apanowicz Olgi zam. Suchenicze w sprawie wyznaczenia działki do dożywotniego użytkowania informuje, że działka w/w Obywatelce została wyznaczona.

Sprawa powyższa nie była do chwili obecnej załatwiona pozytywnie, gdyż zainteresowana na kilkakrotne propozycje odnośnie wyznaczenia działki nie wyrażała zgody twierdząc, że są źle usytuowane w terenie.

Z up. Naczelnika Gminy
Referent rolny
(podpis nieczytelny)“

—■—

„Niwa“ — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch“. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu“, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# КРАСВОРД

Дырэктар Сцяпан Філімонавіч ужо трэцюю гадзіну, як прыйшоў на работу. Ён пазяхаў і ніяк не мог саўладаць з сабой, санліваець не адагнаў нават часопіс „Шпількі", які ён чытаў. Вось і зараз ён так шырока развіў рот, што сляза шыбанула з вока. Сцяпан Філімонавіч выцер яе насоўкай і пераміняў руку, што падпірала галаву. Потым зноў захацеў пазяхнуць, як раптам яго вочы ўбачылі на апошняй старонцы красворд.

— Цікава, цікава! — і Сцяпан Філімонавіч схіліўся над красвордам.

Першым было слова з васьмі літар, якое азначала фармаліста, педанта і „папяровую натуру" разам.

— Хм! Хто ж гэта такі? — падумаў Сцяпан Філімонавіч. — Можа бухгалтар Пісулькін? Не, у ім жа адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць... Во, дзевяць літар! Не падыходзіць! Можа загадчык Гузікаў? — Сцяпан Філімонавіч зноў загнуў пальцы, падлічваючы літары.

— Не, у ім жа толькі сем літар. Пёрышкін?... Восем літар! Падыходзіць! Знайшоў! Бюракрат Пёрышкін! Так і запішам — б-ю-р-а-к-р-а-т! — расцвіў Сцяпан Філімонавіч у шырокай усмешцы, якая падзяліла яго твар на бліскучыя вочы, нос-бульбу і двайны падбародак.

Наступнае слова было з шасці літар і азначала раку.

— Днепр! — падумаў Сцяпан Філімонавіч. — Не, у ім жа толькі пяць літар... Свіслач? Зноў не тое! У ёй цэлыя сем! Сож?.. Бярэзіна?.. Нёман?.. Буг?.. Заходняя Дзвіна?.. Усё не тое!

Сцяпан Філімонавіч аж пакрыўся нездаровай чырванню ад напружанай разумовай працы, але слова не паддавалася. Ён акінуў вачыма кабінет, быццам шукаючы адказ на сценах, і пачаў гартаць энцыклапедыю. Але рака не знаходзілася, як скрозь зямлю праваліласл.

І тут дырэктару прыйшла думка, ад якой ён адразу пасвятлеў: „Пазваню я Бірулькіну!" — і рашуча ўзяў тэлефонную трубку.

— Алё!

— А, Бірулькін, здароў! — пазнаў Сцяпан Філімонавіч голас свайго намесніка.

— Дзень добры, Сцяпан Філімонавіч!

— Што робіш?

— Ды нічога... Я хацеў сказаць, працую памаленьку.

— Глядзі, лайдакі мне не патрэбны.

— Ды што вы, Сцяпан Філімонавіч, ці ж вы не ведаеце мяне?!

— Ну, годзе, годзе!.. Вось што, Бірулькін. Паедзеш у камандзіроўку у гэты... як яго... Ну, горад гэты... Ён яшчэ на рацэ з шасці літар стаіць!

— З шасці літар? — Бірулькін задумаўся, аж тэлефонная трубка пакрылася потам. — Шчара, Лань, Прыпяць, Гарынь... О, Гарынь! Знайшоў!... Тады выходзіць, Сцяпан Філімонавіч, вы мяне ў Столін камандзіруеце?

— Хм, Гарынь — дырэктар усміхнуўся: слова пайшло. — Столін, гаворыш? Ну, Столін дык Столін... Паедзеш у Столін, праверыш, як яны там працуюць.

— Ну, я пайшоў збірацца! — адказаў Бірулькін.

— Ідзі, ідзі! — сказаў задаволены дырэктар. і павесіў трубку.

Наступнае слова было з чатырох літар і азначала пустыню ў Азіі.

**Алесь Шаўцоў**

# НІЎКА








## ЗЛОДЗЕЙ І ЗАДРЫПАНЕЦ

Ноччу да задрыпанца залез злодзей. Ён доўга шнырыў у цемры, але нічога не знаходзіў. Тады ён пачаў абмацваць усе паліцы, рыцца ва ўсіх закутках і шчылінах.

Задрыпанец не спаў і ўсё бачыў. Нарэшце ён не вытрымаў і сказаў:

— Дарма, дружа мой, стараешся! Я нават сярод белага дня нічога не магу знайсці ў гэтай хаце, а ты хочаш тут нешта знайсці сярод ночы?

## РАСТЛУМАЧЫЛА

У суботу муж вярнуўся з вёскі, дзе памагаў на жнівах. Яшчэ не паспеў і парога пераступіць, як жонка ўжо і пачынае:

— Я так намучылася на кухні, я так напрацавалася, я так стамілася за цэлы дзень. Бадай яго з такім жыццём.

Муж супакойвае яе:

— Вось хутка Элачка падрасце і будзе табе памагаць... Кім ты будзеш, Элачка, калі вырасцеш?

— Суседкай.

— А чаму ты хочаш быць суседкай? — здзівіўся бацька.

— Бо суседкі вясёла жывуць — стаяць з мамай цэлы дзень, гавораць і смяюцца.

МІНІВЕРШЫ

### САВІНЫ ПОГЛЯД

*Вялікі крык Сава ўзняла*
*Уначы над лямпамі сяла:*
*— Трэ знішчыць лямпачкі датла;*
*Жыць будзем слаўна без святла!*

**Н. Парукаў**

— МЯНЕ НЕ ХВАЛЮЕ, ШТО АБА МНЕ ДУМАЮЦЬ ІНШЫЯ, Я САМА ДУМАЮ АБ ІХ ТОЕ САМАЕ!

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Амерыканскі часопіс прапанаваў сваім чытачам рашыць адну задачу, за якую прызначалася вялікая прэмія. А задача была такая: „На паветраным шары падарожнічалі тры пасажыры: генерал, кіназорка і вучоны-атамшчык. З прычыны кепскага надвор'я ім пагражала аварыя і таму было неабходна ахвяраваць адным з пасажыраў. Каго б вы выкінулі за борт?" Узнагарода была прысуджана дзесяцігадовай дзяўчынцы, якая даслала ў рэдакцыю наступны адказ:

„Трэба ахвяраваць самым тоўстым з іх".

*

На сяброўскай сустрэчы адзін з запрошаных гасцей звярнуўся да гаспадыні, якая ціхім голасам спявала песню:

— Мой дзед аддаў бы ўсю сваю спадчыну, калі б пачуў, як вы прыгожа спяваеце.

— У такім выпадку гэта можна зрабіць, — адказала задаволеная гаспадыня.

— На жаль, не, — адказаў госць. — Мой дзед зусім глухі.

*

— Вы думаеце, што гэта аперацыя мне сапраўды неабходна? — пытаецца хворы ў доктара.

— А што вы лічыце за лепшае... аплаціць выдаткі на пахаванне?

— Не, але, аднак, я не хацеў бы плаціць і за тое і за другое.



*— Глядзі, гэта зусім проста!*

## ЛЕПШ НА ЦУКЕРКІ

— Ты ў мяне атрымаеш на арэхі, — папярэджвае бабуля Міколку.

— Лепш на цукеркі, бо арэхаў у магазіне няма, — просіць Міколка.



*Падзел працы.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Н. Весялоўскай з Астражан, І. Нясцярук з Дубіч Царкоўных, С. Новік, А. Матысюк, Я. Лукшы, Ю. і А. Кічкайла з Семянойкі, А. і Н. Нікіцюк са Ступнік, В. Мартынюка і Л. Апалінскага з Паўлаў змяшчаем песню*

# TAKI JEST ŚWIAT

—■—

**słowa: Magdalena Mikulin**
**Krzysztof Drzewicki**
**muzyka: Zbigniew Nowak**
**śpiewa Grupa Happy End**

—■—

Chociaż nadeszły dni pochmurne,
chociaż nadziei zginął ślad —
jednak już jutro lub pojutrze
znowu zaśpiewasz z nami tak:
Piękny jest świat,
taki piękny jest świat,
choć na nim jeszcze tyle krętych dróg...
Bywa słońce, bywa deszcz,
ale zawsze więcej słońca,
a mniej wielkich burz!
Piękny jest świat,
taki piękny jest świat,
on żyje wciąż w naszych kolorowych snach...

Nowe barwy nowych dni
damy światu właśnie my —
w świecie tym zakochani.
Kiedyś czytałem twoje wiersze
żaden nie wróżył dobrych snów:
wtedy nie znałaś chyba jeszcze
wagi najprostszych paru słów:
Piękny jest itd.

—■—

## РЭЖА... САЛОМУ

Кастуся жонка моцна вылаяла і выгнала з хаты...

Начавацъ давялося ў суседа.

Што ж гэта ў вас здарылася? — пытае сусед.

— Ды сказала жонка нарэзаць сечкі.

— Дык трэба было нарэзаць...

— А я зроду сечкі не рэзаў, а заўсёды рэжу... салому.



# КУРЁЗЫ

## ВАННА

У заходнеамерыканскім горадзе Леверкузене адзначаўся нейкі юбілей. Арганізатары ўрачыстасцей выбралі для яго правядзення памяшканне... гарадскога музея. У ходзе застолля ўзнікла невялікая замінка: не было дзе ахаладзіць піва, бо халадзільнік у буфеце аказаўся занадта малы. Зрэшты, выхад быў знойдзены. У падвале знайшлі старую паржавелую і дзіўна пафарбаваную дзіцячую ванну. Яе на скорую руку абмылі, напоўнілі халоднай вадой і загрузілі бутэлькамі.

Якое ж было здзіўленне ўдзельнікаў юбілею, калі літаральна на наступны дзень ім быў прад'яўлены іск на 80 тысяч марак. Аказваецца, ванна была... творам мастацтва. Абстракцыяніст Беус, вядомы ў ФРГ сваёй эксцэнтрычнасцю, некалькі гадоў назад падарыў музею „твор", названы ім „ваннай, у якой мастака купалі ў дзяцінстве". Уключыць яе ў экспазіцыю дырэкцыя пасаромелася. Але калі „твор мастацтва" аказаўся загубленым, падала ў суд, патрабуючы пакрыць страты. На 80 тысяч марак „ванна, у якой купалі маленькага Беуса", была, як высветлілася, застрахавана музеем.

Судовай справе не відаць канца. Суддзі, пры ўсёй павазе да мастацтва не адважваюцца вынесці прыгавору на карысць істца.

## У КАГО БОЛЬШ ДЗЯЦЕЙ?

За апошнія сто год самая шматдзетная шлюбная пара ў Еўропе зарэгістравана ў Францыі. У мужа і жонкі Дзевод нарадзілася 25 дзяцей.




**Вядома, кожнаму сваё, ды часам так хочацца чужога!**